# Беларуская рэвалюцыйная сытуацыя: НАРОД НЯ ХОЧА, НАМЭНКЛЯТУРА НЯ МОЖА

№ 37 (246) 10 верасьня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ГАНЧАРЫК ПРАЙГРАЎ

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

**Апытаньне "НН"**

Выбары 1994 году былі ўпершыню і прыпалі на самае маленства нацыі. Таму гэта была цацка ў руках дзіцяці — рэч і нечаканая, і ня надта зразумела, нашто патрэбная. Чалавек ня верыў, што ад яго нешта залежыць і круціў той кубік Рубіка з шасьцю прозьвішчамі-гранямі, ня ведаючы, якая зь іх што азначае, што тут з чаго вынікае і на халеру яму тая свабода выбару.

Выбары 2001 году вярнулі чалавеку ягонае звыклае з савецкіх часоў пачуцьцё — ад яго нічога не залежыць, у ягоным жыцьці нічога ня зьменіцца, бо "ня важна, як галасавалі, а важна, як падлічылі" — падлічылі такія самыя, ад якіх нічога не залежыць, апроч свайго працоўнага месца, сваёй сям'і, свайго дому. Яны рызыкавалі і паміж месцам, сям'ёй і домам — з аднаго боку, і дэмакратыяй — зь іншага — выбралі першае.

Выбары 2001 году сталі этапнымі для ўмацаваньня дыктатуры ў краіне і легітымацыі рэжыму Аляксандра Лукашэнкі. Ягонае пасьлядоўнае вяртаньне да рэаліяў і атрыбутаў савецкага часу паміж іншым мае на мэце і аднаўленьне пажыцьцёвае кадэнцыі кіраўніка дзяржавы. Таму пра выбары 2006 году казаць не даводзіцца.

**Сяргей Дубавец**

**Апытаньне «НН»: у чым адрозьненьні Другіх выбараў ад Першых і як Вы ацэньваеце вынікі выбараў.**

Працяг на старонцы 2.

## Папярэднія вынікі паводле Цэнтравыбаркаму

| | |
|---|---|
| Гайдукевіч С. | 2,5% |
| Ганчарык У. | 15,4% |
| Лукашэнка А. | 75,6% |

На жаль, папярэднія вынікі паводле падліку "Незалежнага Назіраньня" на момант здачы нумару ў друк не былі вядомыя.

Папярэднія вынікі старшынька Цэнтравыбаркаму Лідзія Ярмошына агучыла а 4.20 раніцы сёньня. Удзел у галасаваньні ўзялі 85,5% выбарцаў. Найменшую колькасьць галасоў А.Лукашэнка сабраў у Менску — 57,9%, найбольшую — у Гомельскай вобласьці — 86,8%. Найбольшая колькасьць выбаршчыкаў прагаласавала за Ганчарыка ў Менску — 30,5%. Найменш галасоў адзіны кандыдат сабраў у Гомельскай вобласьці — 8,5%.





**Апазыцыя прайграе інфармацыйную вайну**

# Прайграе Беларусь

Учорашні дзень пачынаўся гарача. У Менск былі таемна перакінутыя часткі ўнутраных і мабільных сілаў з Горадні, Віцебску, Мар'інай Горкі. З-за хмараў вызірала сонейка. Над Драздамі круціліся тры гелікоптэры. Ля Белпалка быў арыштаваны Алесь Казак, лідэр Асацыяцыі рэсурсавых цэнтраў, які пільнаваў перамяшчэньні войскаў. З Горадні, Берасьця, Прапойску, Воршы, Віцебску, Магілёва даходзілі навіны пра недапушчэньне назіральнікаў на ўчасткі. У Берасьці расейскія журналісты заўважылі адчыненую скрыню для датэрміновага галасаваньня. "Незалежнае назіраньне" агучвае зьвесткі: у Смургонях у суботу зьнікла скрыня для галасаваньня, а ў Рэчыцы знайшлі падпісаныя пратаколы з заведамай перамогай Лукашэнкі.

Спэцслужбы часткова паралізавала дзейнасьць "Незалежнага Назіраньня" і апазыцыйных СМІ, вырубіўшы Інтэрнэт-сайты апазыцыі (во табе і анархічны Інтэрнэт, які працуе ў Беларусі цераз адзін кантраляваны дзяржаваю канал), заблякаваўшы электронную пошту, аблажыўшы штабы Ганчарыка і назіральнікаў, адлучыўшы ім тэлефоны і парушыўшы працу мабільнай сувязі. Спэцслужбы нават паадлучалі тэлефоны ў тых нумарах гатэляў, дзе разьмясьціліся заходнія назіральнікі, і паралізавалі працу спадарожнікавай станцыі TBS, прывезенай заходнімі тэлеканаламі (во табе і Лукашэнкавы службы, якія ў апазыцыі шмат хто пагардліва менаваў "калхознымі").

У выніку Лукашэнка цалкам выйграў інфармацыйную вайну. І нават Радыё Свабода а 23-й ня мела іншых лічбаў, апроч папярэдніх Цэнтравыбаркамаўскіх, і, больш за тое, аналізавала іх. А пасьля паўночы і "Свабода" змоўкла, бо б гадзінаў вяшчаньня, адведзеныя ім на вечар, скончыліся.

Для простага беларуса адзінай крыніцай інфармацыі было тэлебачаньне, якое ад 22-й вечара пачало сьвяткаваць перамогу Лукашэнкі. Гарант канстытуцыі і суверэнітэту прымаў віншаваньні й адказваў на ветлыя пытаньні журналістаў, разважаючы пра 11% галасоў апазыцыі.

Хоць, бадай, ня трэ было мець вышэйшай адукацыі, каб задумацца, што не маглі ў 22.30 падлічыць у Менску толькі 15% галасоў, у Менскай вобласьці — 40%, а ў Віцебску — цэлых 60%. Бо ў Беларусі адзін часавы пояс. Але ж Расея настолькі ў нас у галовах...




На двары церусіў дождж, і з тысячы чалавек, што сабраліся на Кастрычніцкай плошчы, паціху разыходзіліся, змучаныя без канца паўтаранаю песьняй Трацьцякова "Дзе Ганчар? Дзе Красоўскі?" па-расейску і па-беларуску ўперамежку з "Modern Talking" і "NRM" зь нейкіх выпадковых касэтаў. Каля паўночы на плошчы засталася тысяча самых зацятых. А Ў.Ганчарык, нібы С.Шарэцкі ў 96-м, заклікаў сабраных праяўляць спакой.

Беларуская намэнклятура ня здужала перайграць Лукашэнку. Адна "Хартыя'97" вяла змаганьне лукашэнкаўскімі ж прыёмамі.

Працяг на старонцы 6.

# Доўгае разьвітаньне з цнотай

## *Першыя выбары, другія выбары, трэція выбары...*

**Чым, на Вашу думку, адрозьніваюцца першыя і другія прэзыдэнцкія выбары? І чым будуць адрозьнівацца трэція прэзыдэнцкія выбары ад другіх? Якія Вашы першыя ацэнкі выбараў? З такімі пытаньнямі зьвярнулася "НН" да грамадзкіх дзеячоў:**

### БЕЗ НАДЗЕІ



**Віталь Васількоў, кіраўнік "Кола сяброў", Магілёў:**

1. Сем гадоў таму большасьць выбарцаў галасавала з надзеяй, але бяз страху. Цяпер большасьць галасуе са страхам і ўжо амаль без надзеі. Спадзяюся, што на трэціх выбарах людзі будуць галасаваць бяз страху і з надзеяй.

3. Вынікі выбараў адлюстроўваюць сытуацыю ў краіне.

### КРЫТЫЧНАЯ МАСА



**Алесь Анціпенка, дырэктар Беларускага Калегіюму:**

1. Сёлетнія выбары адрозьніваліся нагнятаньнем псыхозу і недэмакратычнасьцю, ігнараваньнем міжнародных стандартаў і адкрытым прызнаньнем таго, што міжнароднае прызнаньне або непрызнаньне мала цікавіць улады. Але таксама і актывізацыяй моладзі. Чаго не стае цяпер? Не стае крытычнай масы тых, якія б ня проста жадалі выбараў, а якія б былі гатовыя гэтыя свае намеры праз грамадзянскія паводзіны рэалізоўваць. На жаль, сёньня я ня бачу крытычнай масы, і ўлада гэта адчувае таксама, і, найхутчэй, зробіць выбары нелегітымнымі. Але ўлада прадчувае таксама, што сытуацыя ўжо ня тая, што была раней. Грамадзтва робіцца ўспрымальным да іншых палітычных фігураў і лідэраў.

3. Такія вынікі выбараў былі прадказальныя. Гэта такая Беларусь, якую мы маем. Лукашэнка – па-ранейшаму фаварыт старэйшага пакаленьня.

### БЕЗ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ АЛЬТЭРНАТЫВЫ



**Уладзімер Роўда, палітоляг:**

1. Колькасна і якасна. Тады мы мелі шэсьць кандыдатаў, цяпер толькі тры, хоць першапачаткова вылучалася 20. У краіне назіраецца палярызацыя палітычных сілаў. Калі ўлічыць, што папулярнасьць трэцяга кандыдата, Гайдукевіча, вельмі нізкая, то фактычна ўсё зводзіцца да двубою Лукашэнкі і Ганчарыка. У 1994-м мы мелі двух прадстаўнікоў дэмакратычнай апазыцыі, цяпер — адзінага кандыдата. Але фактычна мы ня маем сапраўднай дэмакратычнай альтэрнатывы. Намэнклятурны кандыдат аб'яднаў як намэнклятуру, так і прастаўнікоў дэмакратычных партыяў. Гэтая сытуацыя мо й дае Ганчарыку шанец, але ў будучыні, не цяпер. Гэтая кампанія прайграная ўшчэнт, бо стаўка ў ёй была зробленая на намэнклятурную рэвалюцыю.

У 1994 г. Лукашэнка, прыйшоўшы да ўлады, найперш стварыў вэртыкаль, якая не дае магчымасьцяў для выяўленьня волі намэнклятуры. Яны мо й хацелі б зьменаў, але ня могуць іх дабіцца. Таму намэнклятурная рэвалюцыя наўрад ці можа ўдацца. Прыкра, што дэмакратычная апазыцыя аказалася ў пастцы намэнклятуры. Прыкра, што яна гэтага не ўсьведамляе. Яшчэ больш прыкра, калі ўсьведамляе.

У 2001 г. мы маем справу з кампаніяй аднаго кандыдата, прычым не з 14 жніўня, а вельмі даўно. Цяпер улады ўжываюць адміністрацыйны рэсурс больш чым на 100%, выкарыстоўваюць таксама СМІ, прэсінг. Нават студэнтам далі дадатковыя выходныя (БДУ), абы яны зьехалі зь Менску. Фальсыфікацыі былі ў 1994 г., ёсьць і цяпер. Сьцьвярджаюць, што ў 1994 г. Лукашэнка ў сапраўднасьці перамог у першым туры, але кебічаўцы перакінулі ад яго пару адсоткаў сабе. Цяпер датэрміновыя выбары даюць вялізныя магчымасьці для фальсыфікацыяў.

За сёлетняй кампаніяй бачыцца і пазытыў: стомленасьць людзей Лукашэнкам. Задоўга ён ужо кіруе краінай, вычэрпваецца рэсурс ягонай папулярнасьці. Многія хацелі б бачыць на чале краіны іншую постаць, але, як сьведчаць вынікі сацыялягічных апытаньняў, вельмі многія расчараваныя (каля 10%), бо няма сапраўднага дэмакратычнага кандыдата, яркай фігуры.

2. А што да трэціх выбараў, дык ці будуць яны ўвогуле? А мо адбудзецца рэфэрэндум аб пажыцьцёвых паўнамоцтвах? Хоць гэта і малаверагодна ў эўрапейскай краіне. А мо наступныя выбары адбудуцца не ў сувэрэннай краіне, а ў суб'екце Расейскай Фэдэрацыі? Небясьпека такая ёсьць, і, каб яе не паўтарыць, трэба рыхтавацца проста зараз да трэціх выбараў, рыхтаваць дэмакратычную альтэрнатыву: постаць, праграму. Пакуль папулярнай фігуры няма, але яна зьявіцца ў будучыні, калі апазыцыя перастане быць тусовачнай, стане працаваць з насельніцтвам, выкарыстоўваць кожную праяву незадаволенасьці і страйкавых настрояў. Тады на хвалі працы зьявіцца і постаць.

Беларусь застаецца апошняй дыктатурай Эўропы. Нам можна рыхтавацца да статусу краіны-ізгоя, бо пасьля падобных выбараў Амэрыка будзе ставіцца да рэжыму нашмат больш жорстка. Мо й Нямеччына таксама пасьля апошняй антынямецкай кампаніі Лукашэнкі. Яны будуць ціснуць на Расею, каб засьцерагчы апошнюю ад інкарпарацыі Беларусі і дабіцца лібэралізацыі ў Беларусі.

### НЕБА І ЗЯМЛЯ

**Валеры Вухналёў, адзін зь лідэраў Партыі Камуністаў:**

1. 1994-ы і 2001-ы — гэта неба і зямля. Цяпер няма ні свабоды, ні дэмакратыі. Месяц еджджу па Магілёўшчыне і магу шмат расказаць пра запалохваньні і парушэньні.

2. Трэція ж выбары будуць дэмакратычнымі. Беспрадзел жа больш цягнуцца ня можа. Людзі зразумеюць сытуацыю.

3. Вынікі выбараў сфальшаваныя: на некаторых участках за Ганчарыка галасавала каля 40%.

### ВЫБАРЫ НЕ АДЛЮСТРАВАЛІ СТАНУ РЭЧАЎ



**Іван Пашкевіч, дэпутат "палаты прадстаўнікоў":**

1. Першыя з другімі нават супастаўляць няёмка. Людзі запалоханы. Думка людзей нікога не цікавіць. На гэтых выбарах робіцца ня выбар народу, а выбар вэртыкалі. Аб'яўленыя лічбы ня будуць адлюстроўваць рэальнага стану рэчаў. Чыноўнікі з вэртыкалі называлі мне лічбу 60 і болей працэнтаў. Памылкі ўладамі зробленыя такія, што выбары ня могуць быць прызнаныя легітымнымі.

2. Тое, што цягнулася сем гадоў і будзе яшчэ пяць, ня можа больш паўтарыцца. І Расея, ад якой многа залежыць, таксама ня будзе цярпець.

### СТАЛЕНЬНЕ



**Юрась Карманаў, радыёжурналіст:**

1. Апазыцыя здолела вылучыць адзінага кандыдата. Апазыцыя пасталела.

2. Апазыцыя здолее пасталець настолькі, што прэзыдэнтам стане не Лукашэнка.

### ЛЕПШ УЛАДА, ЧЫМ УГОДА

**Кастусь Травень, прадпрымальнік:**

1. Да другіх выбараў у краіне пабудавалася аўтарытарная ўлада, і для большасьці такая ўлада лепшая, чым угода мафіёзна-крымінальных структураў. Аб'яднаная апазыцыя ўжо ня мае тых магчымасьцяў, якія мела б сем гадоў таму.

2. Гэта будзе працягвацца, пакуль хопіць нафты і газу ў Расеі. Потым усё разваліцца. Трэціх выбараў можа і ня быць. Навошта?

### ГАДУЙМА КАДРЫ!



**Аляксандар Мілінкевіч, кіраўнік штабу С.Домаша:**

1. Вялікі посьпех — аб'яднаньне апазыцыі. Гэта паказчык разьвіцьця дэмакратычных сілаў.

2. Выбары могуць адбыцца і не праз пяць гадоў, а раней. Досьвед гэтай кампаніі дапаможа ў кансалідацыі апазыцыі, выхаваньні новых кадраў, здольных кіраваць ня толькі на нацыянальным і рэгіянальным, але й на лякальным узроўні. Варта ўдзельнічаць ва ўсіх выбарах, якія будуць адбывацца да наступных прэзыдэнцкіх, каб назапашваць досьвед.

3. Шкада, што апазыцыя не спрацавала па максымуме. Вылучэньне адзінага кандыдата яшчэ ня ёсьць перамогай. Адзіны кандыдат ня здолеў кансалідаваць грамадзтва.

### БЯЗ ВЫБАРУ



**Іна Кулей, кіраўнічка цэнтру "Вежа" зь Берасьця:**

1. Тады быў выбар. Сёньня выбар адсутнічае. На гэтых выбарах незвычайнага размаху дасягнулі мана, цынізм, хлусьня ў адносінах да альтэрнатыўных кандыдатаў. Але й незвычайнага ўзроўню дасягнула і жаданьне простых людзей удзельнічаць.

2. На трэціх, спадзяюся, будзе нармальны выбар, калі можна будзе выбіраць па камандах, праграмах, асабістых якасьцях.

3. Няшмат было часу ў адзінага кандыдата, не было сродкаў, якія мелі ўлады. Калі б было лепшае інфармаваньне – перамаглі б толькі так.

### ПАДРЫХТОЎКА ДА РАЗЬВІЦЬЦЯ



**Павал Якубовіч, рэдактар газэты *"Советская Белоруссия"*:**

1. Сёньня ў апазыцыйным асяродзьдзі людзі, што дэкляруюць сваю прыхільнасьць да лібэральных прынцыпаў, прынцыпаў добрага парлямэнтарызму, намагаюцца давесьці, што пасьля перамогі ня будуць дзейнічаць як заваёўнікі ў захопленым горадзе. І вельмі многа было заяваў, што ўсё будзе цывілізавана, у рамках закону, але разам з тым наяўнасьць сярод апазыцыйнае вярхушкі старой савецка-вайскова-чэкісцкай намэнклятуры пераконвае мяне ў тым, што многія людзі ідуць на выбары пад штандарамі помсты і далейшага ўдзелу ў бізнэс-праектах. Дзьве рэчы надаюць ім сілы. Па-першае, яны разьлічваюць запаліць вогнішчы народнага гневу й стварыць дэмакратычныя трыбуналы на кожным куце, а па-другое, забясьпечыць сваю сям'ю матэрыяльна — на законных падставах. Таму ўнутраная падаплёка перадвыбарнай барацьбы была вельмі жорсткая, але з-за таго, што апазыцыя не змагла знайсьці ні пэрсоны сур'ёзнай, якая б прывабіла людзей, ні тым больш новых сацыяльна значных ідэяў, ёй давялося карыстацца найпрасьцейшым, спадзявацца на сэнсацыйныя выкрыцьці. Гісторыя з касэтамі і пошукам зьніклых людзей была блытаная і грамадзтва страціла да яе цікавасьць, а іншага нічога не знайшлося ў апазыцыі. Хоць, дзякуючы Захаду, апазыцыя мае сур'ёзны прапагандысцкі рэсурс. "СБ" упікаюць за спэцвыпуск, аднак гэта яшчэ што ў параўнаньні зь вялізнымі тыражамі карлікавай "Беларускай Маладзёжнай", якія раздаваліся бясплатна... То бок, людзі, якія маюць адносіны да журналістыкі, раптам заяўляюць: мы штабы палітычных партыяў, — і друкуюць праклaмацыі, ставячы сябе тым самым па-за журналістыкай. Вельмі шкада, што Беларуская Асацыяцыя Журналістаў ня здолела паўплываць на гэтыя выданьні. Вось гэтым сёлетнія выбары розьняцца ад папярэдніх. На жаль, увесь апазыцыйны спэктар дэкляраваў, што іхны дэпутат зьяўляецца прадстаўніком шырокай дэмакратычнай апазыцыі. Наўрад ці стары апаратчык Ганчарык зможа практычна ажыцьцявіць ідэі адзінага прадстаўніка шырокай дэмакратычнай кааліцыі.

2. Сем мінулых год былі нібы падрыхтоўкай да далейшага разьвіцьця Беларусі як сувэрэннай дзяржавы. Я абсалютна ўпэўнены, што прэзыдэнт Лукашэнка захавае незалежнасьць Беларусі. Бо палітычная незалежнасьць — катэгорыя абстрактная. Сёньня важная эканамічная самастойнасьць. Лукашэнка здолеў захаваць той парытэт з Расеяй, калі Расея сур'ёзна спрыяла разьвіцьцю нашай эканомікі. Лукашэнка пакінуў уласнасьць дзяржавы ў руках Беларусі і, дзякуючы гэтаму, можна казаць, што ўсе палітычныя рашэньні прымаюцца ў Менску, а не ў Маскве, Варшаве альбо Вільні. Бо агрэсіўны расейскі бізнэс даўно паглядае на пэўныя аб'екты нашае эканомікі. Дый заходнія бізнэсоўцы былі б ня супраць падзяліць беларускі пірог, калі б зьявілася такая магчымасьць. Галоўная задача ўлады ў новы пэрыяд — гэта рух наперад да стварэньня грамадзянскай супольнасьці. А шлях да яго — гэта шлях да эканамічнага лібэралізму, шлях да сур'ёзнага зьмяненьня ўзроўню адносінаў з Захадам. Тут вельмі многа праблемаў і яны будуць вырашацца на складаным фоне — на фоне ўкраінскім, дзе зараз ідзе сур'ёзная барацьба за ўладу, якая будзе ўплываць на сытуацыю ў Беларусі, гэта дынамічны рух у Расеі... Але так ці інačай, трэба рухацца наперад. Было сем год, каб спыніцца, азірнуцца, давесьці да ладу ранейшыя мэханізмы іісьці далей па шляху, па якім ідзе эўрапейскае цывілізаванае грамадзтва.

3. Калі лічбы, пададзеныя апазыцыяй, могуць падсаладзіць пілюлю сп.Ганчарыку – што ж... Нават калі адняць 14% выбаршчыкаў, якія галасавалі датэрмінова, усё адно перамога Лукашэнкі выглядае пераканаўча. Зрэшты, пра сур'ёзныя парушэньні ў часе галасаваньня я й ня чуў – дзесьці скрыня ня там стаяла, дзесьці цешчы памерлай не ўлічылі...

### РАЦЫЯНАЛЬНЫ ВЫБАР



**Аляксандар Дабравольскі, адзін зь лідэраў АГП:**

1. Кебіч стварыў інстытут прэзыдэнцтва пад сябе, але прайграў выбары. На першых перамог чалавек, які ажыцьцявіў антынамэнклятурную рэвалюцыю. Лукашэнка таксама перарабіў канстытуцыю пад сябе. У гэтым пэўнае падабенства сытуацыяў 1994 году і цяперашняй. Але воля да ўлады ў Лукашэнкі большая, і зь ім змагацца цяжэй. Кебіч не выклікаў моцных адмоўных эмоцый, каб пасварыць сем'і паміж сабой, сваякоў паміж сабой. Лукашэнка якраз такі чалавек, што ўсё грамадзтва перасварыў, перасварыўся з суседзямі. Прыкметы гэтых выбараў — міжнародная ізаляцыя Беларусі і моцная палярызацыя грамадзтва.

2. Праз пяць гадоў будзе іншая краіна. Гэта будуць выбары, на якіх выбар будзе больш рацыянальным.

## Арышт "Пагоні"

Гарадзенская газэта "Пагоня" да выбараў павінна была выйсьці накладам, павялічаным болей як у 10 разоў. Аднак у горадзе распаўсюджваліся толькі выбарчыя выпускі сталічных газэтаў. Наклад "Пагоні" арыштавалі.

Пасьля таго, як друкарскі варштат быў спынены па камандзе ўладаў, каля 11 тысячаў надрукаваных асобнікаў зьнішчылі. Неўзабаве рэдакцыю газэты апанавала міліцыя — 15 чалавек. Пракуроры паказалі галоўнаму рэдактару Міколу Маркевічу пастанову аб узбуджэньні крымінальнай справы з нагоды публікацыяў, з "паклёпам на прэзыдэнта". Якіх публікацыяў канкрэтна гэта тычылася – ніхто не сказаў. Адразу была канфіскаваная кампутарная база газэты, а на наступны дзень — фінансавыя дакумэнты.

Рахунак арыштаваны ня быў. Значыцца, можна выпускаць наступны нумар – 37-ы. Калі атрымаецца, ён выйдзе 13 верасьня.

**Сяргей Краўцоў, Горадня**

# Прэзыдэнт усіх крэолаў

## Улада і апазыцыя на выхадзе з выбараў

Валерка Булгакаў

**Выбарчая кампанія пакіне добры сьлед у калектыўнай памяці беларусаў. Яна прыцягнула да сябе ўвагу ўсіх пластоў грамадзтва. І хоць яно ў каторы раз аказалася падзеленым ня проста сьветапоглядна, а культурна, тое, што беларускія грамадзяне некалькі месяцаў цалкам былі захоплены пэрыпэтыямі айчыннай палітыкі, нашмат важнейшае.**

**Прэзыдэнцкія выбары прывучаюць людзей быць грамадзянамі ўласнай дзяржавы і тым самым фармуюць незалежніцкія настроі ў масах. Людзі пачынаюць ня толькі жыць, але і мысьліць у каардынатах незалежнай дзяржавы. Выбары ствараюць рэальную палітычную гісторыю краіны. Мінецца яшчэ крыху часу, і савецкая эпоха будзе на масавым узроўні ўспрымацца ўсяго толькі як перадгісторыя незалежнай Беларусі.**

### ЧАМУ ГАНЧАРЫК СТАЎ АДЗІНЫМ?

І Ганчарык, і Домаш сваім зьяўленьнем на палітычнай сцэне былі абавязаны структурам беларускага трэцяга сэктару. Толькі Ганчарык быў кандыдатам ад "савецка-постсавецкага" трэцяга сэктару, які ў агульных рысах сфармаваўся пры канцы існаваньня СССР, а Домаш — ад "новага незалежніцкага" трэцяга сэктару, які ўзьнік пасьля Лістападаўскага перавароту 1996 г. Гэтае адрозьненьне тлумачыць і памяркоўнасьць пазыцый Ганчарыка, і большую колькасьць подпісаў у сваю падтрымку, сабраную Домашам.

Тыя структуры, якія ўвасабляе Ўладзімер Ганчарык, былі за савецкім часам зародкамі грамадзянскай супольнасьці пры аўтарытарнай палітычнай сыстэме. Яны ў многіх праявах функцыянуюць не як рэальныя, а як *сымбалічныя* сацыяльныя інстытуты. Парадаксальна, але перамога лукашэнкаўскага рэжыму над прафсаюзнай імпэрыяй Ганчарыка можа азначаць не падрыў жыцьцядзейнасьці дэмакратычных сілаў, а хутчэй ачышчэньне дэмакратычнага лягеру ад яго нежыцьцяздольных структурных элемэнтаў. У сваю чаргу, зьняцьцё Сямёна Домаша зь перадвыбарнай гонкі ў пэўнай ступені вывела з-пад удару структуры "новага трэцяга сэктару", які знаходзіцца ў фазе станаўленьня і ня быў цалкам гатовы да змаганьня.

Пасьля перамогі беларускі рэжым захоча паквітацца зь "мяцежнай" Фэдэрацыяй прафсаюзаў беларускай і яе вышэйшым кіраўніцтвам. Але канфлікт паміж дзяржапаратам і прафсаюзамі не абяцае быць лёгкім, а перамога лукашэнкаўцаў — беззасьцярожнай. У кожным разе, пры такім сцэнары разьвіцьця падзеяў адказнасьць за дэстабілізацыю палітычнай сытуацыі ў Беларусі ўскладзецца на рэжым.

### ТРЫ СІЛЫ, ЧАТЫРЫ КАНДЫДАТЫ

Постаць "кандыдата ад трэцяй сілы", Гайдукевіча, найбольш яскрава сьведчыць пра наяўны ва ўладаў патэнцыял для маніпуляцыі грамадзкай думкай. Былі ў абозе Лукашэнкі і іншыя псэўдакандыдаты, якіх адсеялі па дарозе. А Гайдукевіч дабіўся рэгістрацыі, бо зьяўленьне яго прозьвішча ў выбарчых бюлетэнях выглядала найбольш праўдападобна.

Фактычна, вынікі збору подпісаў за кандыдатаў паказалі, што ў краіне маюцца чатыры рэальныя палітычныя сілы. Тры зь іх досыць стабільныя: адміністрацыйна-гаспадарчы апарат, стаўленік кланаў якога — Лукашэнка (395 тыс. подпісаў), незалежнае беларускае грамадзтва (Домаш, 161 тыс. подпісаў), шэры бізнэс, цесна зьвязаны з карумпаванай часткай дзяржаўнага апарату (Гайдукевіч, 136 тыс. подпісаў). Чацьвертая ж — гэта ўтвораны бягучай каньюнктурай хісткаваты альянс расчараванай у палітыцы Лукашэнкі намэнклятуры, прыватнага бізнэсу, "старога трэцяга сэктару", а таксама той часткі дзяржаўных службоўцаў, інтарэсы якіх палітыка Лукашэнкі ставіла пад пагрозу. Уладзімер Ганчарык сабраў 123 тыс., але цяжка прадказаць доўгатрываласьць гэтага палітычнага хаўрусу. У той жа час пэрспэктывы росту палітычнае вагі незалежнага беларускага грамадзтва, і Домаша як палітыка ў прыватнасьці, залежаць ад таго, наколькі чуйна змогуць яны працаваць з гэтай чацьвертай сілай.

### ЛУКАШЭНКА І ЛУКАШЭНКАЎЦЫ

Лукашэнка ўзору 2001 году — гэта не Лукашэнка ўзору году 1994-га. Менскае асяродзьдзе, у якім ён круціцца вось ужо дзесяць гадоў, моцна на яго паўплывала. Фактычна, ужо цяпер «гарант Канстытуцыі» часткова ўзяў на ўзбраеньне рыторыку нацыянальна-дэмакратычных сілаў. Тую самую рыторыку ў характэрнай для яго абсурднай манеры падхапіла постчыкінскае БТ.

Выбары паказалі, што дэмакратычныя сілы недаацэньваюць інтэлектуальны патэнцыял лукашэнкаўцаў. Нягледзячы на выкрыцьці ў справах зьніклых (забітых?) палітыкаў і прадпрымальнікаў, мэдыйныя скандалы з удзелам перакінчыкаў з лукашэнкаўскага лягеру, цягам перадвыбарнага марафону ўвесь час складалася ўражаньне, што дэмакраты так і ня здолелі перахапіць у лукашэнкаўцаў ініцыятыву. Тым удавалася ўсё задуманае — дабіцца нэўтралітэту новапаўсталых бізнэс-элітаў, заручыцца падтрымкай Расіі і іншых краінаў СНД, разрэклямаваць у СМІ эканамічны ўздым, укідваньнем тузіну псэўдакандыдатаў зьбіць з панталыку незалежныя СМІ, адных падкупіць, другіх падмануць. Карацей, усё, што ўдалося пару гадоў раней іхным расійскім, украінскім, казахскім калегам.

Перадвыбарная кампанія таксама паказала моц бюракратычнае сыстэмы, умацаванае Лукашэнкам.

### ПРЭЗЫДЭНТ УСІХ КРЭОЛАЎ

Стойкі лукашэнкаўскі электарат — гэта крэалізаваная частка беларускага грамадзтва. У беларускім кантэксьце з крэоламі ня варта атаясамліваць толькі этнічных беларусаў, якія дагэтуль не набылі акрэсьленай нацыянальнай ідэнтычнасьці. Трэба падысьці шырэй: крэолы — носьбіты сьвядомасьці, сфармаванай яшчэ за часоў данацыянальнага грамадзтва. Юры Сівакоў, Урал Латыпаў і Аляксандар Лукашэнка ў гэтым сэнсе мала розьняцца.

Расійска- і піджынамоўныя крэолы з пашпартамі грамадзян Рэспублікі Беларусі непазьбежна ўтвараюць асноўны рэсурс палітычнага рэжыму, створанага Лукашэнкам. Дзякуючы сваёй культурнай непаўнавартасьці і псыхалягічнай няўстойлівасьці яны асабліва паддатныя ўсялякім маніпуляцыям з палітычнымі мэтамі. Толькі крэолы могуць забясьпечыць стварэньне такой канструкцыі ўлады, якая магла б утрымацца адносна вялікі гістарычны прамежак часу, дасягненьне "пераемнасьці ўлады", пра што так марыць Лукашэнка. Лукашэнкаўскія рэфэрэндумы 1995 і 1996 г., апрача тымчасовых палітычных эфэктаў, зьнялі ўсе абмежаваньні з рэпрадукцыі крэолаў у маштабе ўсяго грамадзтва, ператварыўшы тым самым гэтую рэпрадукцыю ў адну з найважнейшых мэтаў дзяржаўнай палітыкі.

Крэольская маса — ня столькі пагроза для дзяржаўнасьці Беларусі, чаго так баялася нацыянальная інтэлігенцыя, колькі зарука стабільнасьці і непарушнасьці аўтарытарызму. Крэолы не пагроза незалежнасьці найперш таму, што яны палітычна бязвольныя і імі лёгка маніпуляваць. З тае ж прычыны яны не нясуць пагрозы палітычнаму рэжыму і ягонаму кіраўніку.

Расійска-беларуская інтэграцыя для беларускіх крэолаў мае сымбалічнае значэньне. Яна забясьпечвае ім пазытыўны эмацыянальны тонус, стварае ілюзію супадзеньня іх прыватных і дзяржаўных інтарэсаў. Для задавальненьня гэтай ілюзіі і сам Лукашэнка працягвае трымаць у сваім атачэньні жменьку цьвердалобых русафілаў. Але пры гэтым адчужэньне Беларусі і Расіі будзе нарастаць у меру ўмацаваньня новай расійскай нацыянальнай ідэнтычнасьці.

Як аўтарытарная дзяржава, Беларусь няздольная да інтэграцыі. Утварэньне стабільных супольных структур магчымае толькі пры дэмакратычным ладзе і на дэмакратычным грунце. Інтэграцыя ў рамках Эўразьвязу гэтаму прыклад. Аўтарытарная ж дзяржава выкарыстоўвае інтэграцыю для здабыцьця дадатковых рэсурсаў для ўнутранага ўмацаваньня рэжыму.

### СЫСТЭМА АПАЗЫЦЫІ

Выбары пакуль не прывялі да ўзбуйненьня беларускіх палітычных сілаў. Апазыцыя застаецца раздробленаю, а "самотныя палітыкі" па-ранейшаму маюць, прынамсі, ня меншую палітычную вагу, чым лідэры партый. Аднак узбуйненьне палітычных структур дэмакратычных сілаў Беларусі ўсё роўна адбудзецца ў агляднай будучыні, бо ў яго аснове ляжыць ня чыйсьці валюнтарызм, а аб'ектыўны мэханізм самарэгуляцыі палітычнага рынку. Нешта падобнае назіраецца ў эканоміцы: пасьля першаснага назапашваньня капіталу сярод мірыядаў дробных-драбнюсенькіх суб'ектаў гаспадараньня крышталізуюцца эканамічныя структуры большай вагі. Выйграе той, хто першы зразумее непазьбежнасьць узбуйненьня.

Новыя супэрпартыі маглі б узначаліць дэмакратычныя лідэры, якія сталі вядомыя грамадзтву дзякуючы сёлетняй прэзыдэнцкай кампаніі. Палітычную партыю, якая б выступала за сацыяльна арыентаваную рынкавую эканоміку, заваёўвала сымпатыі прамысловых работнікаў і службоўцаў дзяржаўнага апарату ("сацыял-дэмакратычную" ў эўрапейскай тэрміналёгіі), мог бы ачоліць фаварыт дэмсілаў Уладзімер Ганчарык або нехта зь ягонага выбарчага штабу (напрыклад, Валянціна Палевікова, якая мае досьвед партыйнага будаўніцтва). У сваю чаргу, Сямён Домаш мог бы стаць на чале партыі, якая б вызнавала кансэрватыўныя вартасьці і пры гэтым выступала за лібэралізацыю ўсіх сфэраў жыцьця нашага грамадзтва.

Рэарганізацыя палітычнага поля магла б вырашыць шэраг праблемаў, якія навісьлі над партыямі дэмакратычнай арыентацыі. Канец гэтага году можа азначыцца крызысам у БНФ, а таксама ў АГП.

### У ЧАКАНЬНІ КУЛЬТУРНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

Выбары выразна давялі, што Лукашэнка мае найслабейшыя пазыцыі ня там, дзе меркаваны "расійскі дэмакратызуючы ўплыў" наймацнейшы, а там, дзе найлепш захаваліся беларуская культура і каталіцкі антыімпэрскі этас. Пра гэта сьведчаць зьвесткі маштабнага сацыялягічнага дасьледаваньня, праведзенага ў сярэдзіне лета на замову амэрыканскага *International Republican Institute*.

### Падтрымка Лукашэнкі ў рэгіёнах

| | Менск | Менская вобл. | Берасьцейская вобл. | Гарадзенская вобл. | Віцебская вобл. | Магілёўская вобл. | Гомельская вобл. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| давяраю | 45% | 50% | 67% | 40% | 48% | 52% | 67% |
| не давяраю | 48% | 41% | 25% | 42% | 40% | 35% | 27% |
| буду галасаваць за | 32% | 38% | 50% | 30% | 39% | 44% | 51% |

Найменш давяралі Лукашэнку на Гарадзеншчыне (40%). Мяркуючы па ўсім, роўна такі ж нізкі паказчык падтрымкі ён меў у заходніх — беларускамоўных і/або каталіцкіх — раёнах Меншчыны й Віцебшчыны. Найбольшым жа даверам ён цешыўся не на радзімай Магілёўшчыне (52%), а на патрыярхальнай Гомельшчыне і дээтнізаванай Берасьцейшчыне (67%). На Гомельшчыне, як вядома, дакапіталістычныя формы аграрнай вытворчасьці пратрымаліся найдаўжэй, а каталіцкі элемэнт, які распаўсюджваўся ў Беларусі з паўночнага захаду, найслабейшы. А на Берасьцейшчыне этнічна ўкраінскі элемэнт яшчэ да канца не ператварыўся ў беларускую нацыю, а пазыцыі праваслаўя выключна моцныя. Вось жа, Лукашэнка найбольш папулярны там, куды мадэрнізацыя, а зь ёй і беларуская нацыянальная ідэя прыйшлі найпазьней — пасьля другой сусьветнай вайны (тады як на Віленшчыну, Гарадзеншчыну, Меншчыну — яшчэ на зломе XIX і XX стагодзьдзяў). Цікава і тое, што Берасьце і Гомель на пачатку XX ст. былі проста павятовымі цэнтрамі Магілёўскай і Гарадзенскай губэрняў.



Дзяржаўная палітыка рэпрадукцыі крэолаў нясе выклік для людзей беларускай культуры. Уся гісторыя беларусаў у XX ст. збольшага зводзіцца да рэпрадукцыі нацыянальных элітаў як зарукі існаваньня нацыі. У сёньняшніх умовах нацыянальныя эліты нарэшце дабіліся патрэбнай самадастатковасьці, але нацыянальная энэргія ў выглядзе інфармацыйных, культурных, літаратурных і інш. ініцыятываў і праектаў па-ранейшаму скіраваная на іх рэпрадукцыю. Таму на парадку дня з надзвычайнай вастрынёй устае пытаньне пра стварэньне нацыянальнымі элітамі *нацыянальных масаў*. Безь іх умацаваньня беларускі нацыяналізм будзе захоўваць імідж *кабінэтнага праекту*.

Стварыць аўтарытэты, прызнаныя ўсім грамадзтвам, здольная культура. Прыгадваецца, што ў Польшчы часоў ваеннага стану падпольна выйшлі пару тысяч кніг. Вялікая колькасьць польскіх артыстаў, мастакоў, вядомых людзей байкатавала польскае тэлебачаньне, нават ягоныя культурныя праграмы. Стваралася альтэрнатыўная гуманістыка, шырыліся падпольныя пэрыёдыкі, ішла адукацыйная праца. Беларускі аўтарытарызм не разбурыць без аналягічнай арганічнае дзейнасьці. Духоўны падмурак будучых палітычных зьменаў мусіць закладацца ўжо сягоньня. Стратэгічнай мэтай дэмакратычных сілаў бачыцца ня толькі разбурэньне лукашэнкаўскага рэжыму — гэтае можа зрабіць і няўмольны час, але і забесьпячэньне незваротнасьці працэсаў дэмакратызацыі нашага грамадзтва. Апошняе немагчымае безь пераводу крэалізаванай грамады з расійскай культуры ў беларускую.

Пакуль жа пад незалежнасьцю будзе разумецца толькі палітычны сувэрэнітэт без эканамічнай і культурнай незалежнасьці, Беларусь застанецца ў цяперашнім паўвасальным стане. Між тым гістарычная сытуацыя і геапалітычны расклад сілаў даюць шанец на тое, каб трэція прэзыдэнцкія выбары сталіся выбарамі першага прэзыдэнта беларусаў, а не крэолаў.

**Гэта ўрывак з артыкулу, які зьявіцца цалкам у часопісе "ARCHE-Скарына", №4 (у продажы з 20 верасьня).**


IREX-PROMEDIA

### Меркаваньне заўзятара

# Мірыцеся безь зьнявагі

**Больш за ўсё раздражняе спроба Малафеева зваліць віну за прайграную гульню з украінцамі на Хацкевіча і Бялькевіча.** Стары трэнэр зборнай Беларусі сам зрабіў дзьве фатальныя памылкі: выпусьціў на поле двух неадпаведных узроўню гульні нападнікаў (Качуру і Валадзянкова) і замест гульні ад абароны пачаў гуляць у адкрыты футбол. Таму так і нэрваваўся Хацкевіч: у лініі атакі беларусаў мяч не затрымліваўся, уся нагрузка клалася на паўабарону і абарону. Качура і Валадзянкоў выпалі з гульні і ня ўдзельнічалі ў барацьбе. Украінская каманда пачакала, калі наша паўабарона стоміцца і спакойна пайшла наперад.

Калі б Малафееў выставіў праверaных нападнікаў Рамашчанку і Васілюка, патрэбная нам нічыя была б вельмі рэальнай справай. Мы апераджалі ўкраінцаў на два ачкі — здавалася б, гуляй ад абароны, лаві на контратаках і ўся тактыка. Дый Бялькевіч з Хацкевічам займаліся б сваімі справамі і выглядалі, як заўсёды, пераканаўча.

Ну добра, памыліўся трэнэр, хацеў зьдзівіць, заблытаць Лабаноўскага, выставіўшы новых, незнаёмых нападнікаў, якія "добра зарэкамэндавалі сябе ў чэмпіянаце краіны". Здаецца, прызнай сваю памылку — з кім не бывае? А ён абвінаваціў ва ўсім Бялькевіча і Хацкевіча... Яны, відаць, першыя зразумелі, у чым справа, і ім прыкрылі гэтым абвінавачаньнем рот. Між тым Малафеева таксама можна абвінаваціць у тым, што ён аддаў гульню Украіне, неразумна пабудаваўшы стратэгію. Бяздоказна валіць усё на невінаватых, каб схаваць свае асабістыя хібы — гэта ў горшых традыцыях таталітарнага часу. Мы Вас любім, Эдуардзе, але мы любім і Бялькевіча з Хацкевічам. Таму мірыцеся безь зьнявагі адзін да аднаго.

**Кастусь Травень, Менск**

### Футбол

# Хварэем за палякаў

**Пасьля верасьнёўскіх футбольных матчаў маем на адзін пункт менш за Украіну. Наступныя гульні адбудуцца 6 кастрычніка.** Беларусам трэба згуляць на выезьдзе ў Валіі, украінцам — у Польшчы. Само сабой, нам трэба выйграваць, але асноўная надзея ўсё ж на братоў-палякаў. Толькі ці будзе іхная каманда дастаткова змабілізаванай, каб даць бой Украіне, якая набрала добры ход?

Другое месца ў нашай групе выводзіць беларусаў на Нямеччыну або на Англію. Гэта вялікае нешанцаваньне для Украіны. Пройгрыш у стыкавых двубоях (калі Украіна, а не Беларусь апынецца на другім месцы) будзе роўны нацыянальнай трагедыі. Вось мы, калі й прайграем, моцна сумаваць ня будзем.

Але што адбылося ў матчы з палякамі 5 верасьня? Здаецца, дасюль у афіцыйных матчах наша каманда яшчэ не забівала больш за два мячы. Гэты "прарыў" павінен быць псыхалягічна вельмі важны.

Парадаксальна, але звычайнаму беларусу лацьвей трапіць на матч у Польшчы, чым ва ўласнай сталіцы. Квіткі там прадаюцца ў касах, а не разьмяркоўваюцца паміж "чэснымі" (якім футбол часьцяком "да фені"). У палякаў не прыжыліся паняткі "працоўны калектыў" ці "перадавік вытворчасьці". Там нават адмовіліся ад спэкулятыўнага выкарыстаньня слова "народ" і пераназвалі газэту *Trybuna ludu* у проста *Trybuna*.

Так што хварэем за палякаў і разьбіваем валійцаў на іхным полі. Дарэчы, на чужых палёх мы яшчэ не перамагалі, а з валійцамі маем адмоўны балянс (адна перамога пры двух паражэньнях). Ёсьць магчымасьць разабрацца.

**A.U.**

### Ліст зь Нямеччыны

# Беларусы ўмеюць жыць

*О родны кут, як ты мне мілы.*
*Забыць цябе ня маю сілы!*

**А цяпер, у далечы, я сумую па табе, Беларусь! Я вярнуўся ў тую краіну, якая мяне нарадзіла, у тую краіну, якая беларусам уяўляецца месцам, дзе людзі пераважна п'юць піва. Паверце мне, мае дарагія беларусы – нават у Нямеччыне ня ўсё тое золата, што блішчыць. Так, праўда, немцы жывуць у дабрабыце, але навошта ўвесь гэты дабрабыт, калі людзі ня ўмеюць жыць, піць, сьвяткаваць.**

У гэтай краіне, у якой мне зноў даводзіцца жыць, сьвяты спраўляюць вось так: куча бутэлек піва на стале, пасярэдзіне вялізарная каструля бульбяной салаты, можа яшчэ якісьці густы суп з гуляшу, госьці "раскіданыя" па ўсім пакоі, утвараючы маленькія групкі, усе крычаць аднaчасова, перабіваючы адзін аднаго, замест таго, каб размаўляць адзін з адным. Дарагі беларускі народ, так сьвяткуюць немцы. Няўжо Ты таксама хочаш быць такім?

Колькі разоў запрашалі мяне ў госьці ці то ў студэнцкім інтэрнаце, ці то на прыватную кватэру! Людзі сядзяць разам, гутараць, задаюць пытаньні ды адказваюць на іх, пры размове глядзяць адзін аднаму ў вочы. І гэта важна. На стале процьма ўсякіх прыгожанька згатаваных стравaў. Мяска, каўбаска, рыбка, салацікі, бутэрбродзікі, хлеб. Стол ломіцца ад ежы, так што ўжо амаль бракуе месца для талерак і чарачак. Сьвяточны стол узначальвае велічэзная каструля з бульбай. І не адсутнічае, вядома, гарэлачка. Бляск у вачах гасьцей гаворыць не пра вялікі апэтыт, а хутчэй пра нецярплівае чаканьне прыемнага. І потым ядуць, п'юць, жартуюць, сьмяюцца, чаркуюцца. Шум, але гэта ня страшна. Усім весела ў кампаніі. Гаспадыня — альбо гаспадар — вельмі пастаралася, каб гэты вечар быў удалы. Такое сьвята для беларуса — гэта рытуал.

На Новы год прыехала ў Беларусь мая сям'я — бацька, маці, брат, яго нявеста. Мне здаецца, што яны трохі зразумелі, чаму мяне пастаянна цягне ў Беларусь, што мяне там такі доўгі час затрымлівала. Маю сямейку ня раз зьдзіўлялі беларускія абрады. На Новы год мы прыехалі ў госьці, замарожаныя моцным сьнегападам, стомленыя паездкай беларускай электрычкай — і смачная ежа ўжо паравала на стале.

- Толькі маленькая перакуска, - супакоіла нас гаспадыня, напэўна, мяркуючы, што на стале стаіць занадта мала. Ды ў параўнаньні з тым, што яна потым прынесла, гэта на самой справе не было вельмі шмат. Нявеста майго брата дастала фотаапарат ды ўвекавечыла асалоду на стужцы.

- Гэта ж немагчыма, - мармытала яна.

Ужо што тычыцца гэтай першай перакускі, гаспадыня дужа пастаралася. Належыць частавацца, каштаваць усё патрошку. Так, пасьля таго, як я ўсіх перазнаёміў, мы сапраўды сагрэліся, паелі, папілі.

Захоўваюць старыя сяброўствы і набываюць новыя, адпачываюць пры гутарцы пра "сусьветныя праблемы". Можа й узьнікне якаясьці спрэчка, пра якую, аднак жа, хутка, за наступнай чарачкай, забудзеш: урэшце, абодва мелі рацыю.

Я захапляюся Тваімі людзьмі, Беларусь. Мужыком, што ў абменным пункце спрабуе прадаць свае рублі. Хатняй гаспадыняй, што мые акно. Хлопчыкамі, што граюць у футбол. Маладой мамай, што корміць сваё дзіцё. Бабуляй, што, зморaная доўгім жыцьцём, глядзіць у акно альбо вядзе гутарку зь іншай бабуляй на бальконе насупраць. Панкамі, што валяюцца каля стадыёну "Дынама", п'юць піўцо, бяз працы, без пэрспэктываў на будучыню. Сямейнай парай (зь вялізнымі торбамі), што едзе зь лецішча ў сталіцу, каб прадаваць садавіну. Паэтам, што чытае свае вершы. Я захапляюся маленькімі падрабязнасьцямі беларускага жыцьця, зусім чужымі немцу, які ж усё ведае і ўсё ўмее.

Дарэчы, наконт чэргаў перад вінным магазінам. Так, такое таксама сустрэнеш. Жыцьцё такое. Што зробіш? Стаіць мужык зь велічэзнай, зношанай торбай ля прылаўка, складае ў яе 15 набытых бутэлек "Крыжачка". Іншы чалавек за ім, відаць па выглядзе, сабраў і здаў бутэлькі, каб тут і цяпер купіць хаця б пляшачку.

Немцы, між іншым, час ад часу таксама п'юць. Толькі што гарэлка тут, у Нямеччыне, называецца "шнапсам". І ён павінен быць смачны. Немцы хочуць, каб водка альбо "шнапс" меў смак. Інакш яны "ясьненькага", як яшчэ размоўна называюць "шнапс", ня п'юць. Як увогуле можна піць гарэлку? - запытваюць сябе многія немцы. У гарэлкі няма смаку. Напэўна, вось таму яны й прайгралі вайну. Жыць ня ўмеюць.

Беларусы, аднак, умеюць жыць, умеюць выкруціцца з найцяжэйшага становішча. Гарэлка не гарэлка — а я паважаю Цябе, беларускі народ. За ўменьне жыць паважаю. (Хоць гарэлку я таксама п'ю з задавальненьнем.)

**Андрэ Бём, Ляйпцыг**

### Лісты ў рэдакцыю

# Плявок у дыктатара

**Сёньня, 4 верасьня 2001 г., я зрабіў тое, што хацеў зрабіць ужо сем гадоў. Зрэалізаваў запаветную мару.**

А дзявятай гадзіне вечара я сустрэўся зь сястрой і сябрамі на Купалаўскай, і мы пайшлі ў "Ракаўскі Бровар" сьвяткаваць адну радасную падзею ў маім жыцьці. Да Нямігі замест мэтро вырашылі пайсьці пехатой па сьвежым паветры. З Скарыны мы збочылі да пляцу Волі. Насупраць "Патсдаму-Крыніцы" пераходзілі на другі бок, бо мусілі завітаць у "Кароль Хмелю": мой сябра меў там справу. Як толькі мы выйшлі да пераходу, на сьвятлафоры загарэлася чырвонае сьвятло. Яно загарэлася і замерла. Чырвонае. Першая хвіліна. Другая. Трэцяя. Аднекуль зьявіліся даішнікі ды мянты. Перакрылі рух. Мы зразумелі — едзе дыктатар.

Нарэшце, на вуліцу Леніна збочвае картэж. З маланкавай хуткасьцю шасьцісотыя мэрсы набліжаюцца да нас. Я набіраю паветра. Зьбіраю ўсю сьлізь, што назапасіў у вантробах. Увесь бруд, што асеў у нутры за сем гадоў. Усе бактэрыі грамадзтва, усе брудныя вадкасьці. Я маю толькі адзін стрэл. Другой кулі няма. Я раблю ПЛЯВОК. І, Божа, дзякуй Табе, ён трапляе акурат у цэль. Зь мярзотным усплескам сьлізкая вадкасьць разьбіваецца аб лабавое шкло правага мэрсэдэсу.

Гэты гук усё яшчэ гучыць у мяне ў вушах. Сябры таксама яго пачулі.

Сястра пaглядзела зь вясёлай і добрай зайздрасьцю: "Які плявок!".

А я адчуў дзікую радасьць і палёгку. Я зрабіў гэта! Я зрабіў! Маё *alter ego* гэтага не зразумела: "Як ты, боўдзіла, можаш атрымліваць асалоду ад пляўка, калі ты звычайна атрымліваеш СВАЮ асалоду з балету "Рамэа і Джульета" ў пастаноўцы Елізар'ева, з кнігаў Мілаша, з карцінаў Пікаса!?" Гэта была жывёльная і бескантрольная радасьць, як першы аргазм. У гэтым яго вартасьць, гэта яго якасьць. Плявок у дыктатара зьнішчыў жывёлу, якая гадавалася ў маёй сьвядомасьці.

**Р., Менск**

# А мо Крыжаноўскі?

**Хочацца, каб газэта і яе чытачы вярнуліся да пытаньня вылучэньня адзінага кандыдата ад аб'яднанай апазыцыі.**

Мы сутыкнуліся з праблемай адарванасьці апазыцыі ад грамадзтва. Апазыцыя выбрала Ганчарыка менавіта для сябе. Крытэры, па якіх абіраўся адзіны кандыдат, ніколі ня будуць зразумелыя сярэднестатыстычнаму чалавеку ў Беларусі. У абывателя зусім іншая сыстэма ацэнкі кандыдатаў — голас аддаецца таму, хто выклікае сваім выглядам большыя сымпатыі, і асобе, больш вядомай. Заўважце, колькі жанчын млее ад зьяўленьня Лукашэнкі ці Пуціна на тэлеэкране. І нікога не цікавіць, што пры ўладзе аднаго зьнікаюць людзі сярод белага дня, а другі кіруе генацыдам у Чачэніі.

Застаецца толькі шкадаваць, што мы ня можам запрасіць у якасьці кандыдата якую-небудзь галівудзкую зорку.

**Уладзімер Пячкоўскі, Дзятлава**

# Гамафобія

***"Гей-парад, правядзеньне якога заплянавана сёньня ў Менску, зьяўляецца правакацыяй беларускіх спэцслужбаў. Ейная мэта – дыскрэдытацыя беларускай апазыцыі і фактычная перамога на выбарах Лукашэнкі. Як стала вядома прэс-цэнтру Хартыі' 97, адзін з кіраўнікоў гей-аб'яднаньня "Лямбда" Эдвард Тарлецкі зьяўляецца агентам Камітэту дзяржбясьпекі. Сёньняшняя заява арганізатараў гей-параду ў падтрымку апазыцыі і зьяўляецца самай сапраўднай правакацыяй", — з такой заявай выступіла "Хартыя' 97".***

Беларуская мова — вельмі загадкавая. У ёй гэтулькі адсутных словаў, словаў-табу, словаў-дысыдэнтаў. Напрыклад, двухтомны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" слова "гомасэксуальнасьць" зьвязвае з "анармальнасьцю", "*анамальнасьцю*" і г.д. Безумоўна, абсурдна вінаваціць усіх лінгвістаў у гамафобіі. Папросту звычка беларусаў быць нэўтральнымі ў справах асабліва далікатных стварыла маразм у пытаньні мовы, дзе нават просты "травень" набыў фашыстоўскае адценьне, ня кажучы ўжо пра "гамафобію".


АЛЕНА АДАМЧЫХА

Канкрэтнай ці штодзённай гамафобіі ў нас сапраўды амаль няма (зрэшты, ніхто не зьбірае інфармацыю пра выпадкі агрэсіі ў дачыненьні да гомасэксуалістаў і лесьбіянак), але няма ў публічнай сфэры і заўважнага руху за правы геяў і лесьбіянак. Людзі не прызвычайваюцца да разнастайнасьці густаў, поглядаў, паводзінаў і сэксуальнасьцяў. Талерантнасьць не перадаецца генэтычна, ёй трэба вучыцца. Пакуль беларуская дзяржава не сьпяшаецца вучыць сваіх грамадзянаў талерантнасьці ў дачыненьні да адрынутых і маргіналізаваных учорашнім савецкім невуцтвам групаў.

Эмоцыі людзей выбухаюць пры сутыкненьні з тэмай гомасэксуальнасьці, якая ніяк не гармануе для іх з вобразам партызанскай, вэтэранскай і калгаснай Беларусі.

Так, у Віцебску коласаўцы ставілі п'есу паводле Ў.Тэнэсі "Дакрануцца вуснамі да нябёсаў". Цудоўная п'еса пра чалавечую *самоту*. Але "культурная публіка" з кветкамі па прафсаюзнай лініі зрабіла выснову, што п'еса была пра двух вычварэнцаў. Проста падчас дзеі адна глядачка залямантавала: "Вычварэнцы!", калі героі эмацыйна адкрываліся адзін аднаму. Акторы не зьвярнулі ўвагі, хоць відаць было, што яны ледзь стрымліваліся ад рогату.

**Уладзіслаў Гарбацкі, Страсбург**

# Бітва за Беларусь

**Пасьля леташняй рэвалюцыі ў Сэрбіі Беларусь засталася адзінай аўтакратычнай дзяржавай у Эўропе. Таму верасьнёўскія выбары выклікалі вал публікацыяў, прысьвечаных палітычнай сытуацыі ў нашай краіне. Перад 9 верасьня толькі ў выданьнях краінаў Эўразьвязу штодзень зьяўлялася больш за 50 артыкулаў пра Беларусь! А кажуць — мы нікому не патрэбныя...**

**Большасьць заходніх мэдыяў (за выключэньнем шэрагу выданьняў крайне левага або крайне правага накірунку, якія яднае антыамэрыканізм) ставіцца да рэжыму Лукашэнкі непрыхільна: іхныя журналісты выкрывалі фальсыфікацыі, пісалі пра скандалы, спрабавалі зрабіць прагноз адносна вынікаў выбараў. Але не было ў большасьці гэтых матэрыялаў імкненьня зразумець сытуацыю, залезьці ў беларускую скуру, часам ствараласяўражаньне, што публікацыі рабіліся пасьля пары гадзінаў, праседжаных у Сеціве ці прыватнай (хай нават палкай) гутаркі з "дасьведчаным" знаёмым у адной з заходніх місіяў ці адным з апазыцыйных асяродкаў. А то і пасьля павярхоўнага знаёмства з маскоўскай прэсай... Як вынік — бясколернае апісаньне статычнай рэчаіснасьці, дзе "зубры" шчыруюць, мабілізуючы беларусаў, ды пракуроры з гэбістамі выкрываюць паўлічэнкаў. І павярхоўнасьць, і фальш, і бессардэчнасьць цяперашняй сыстэмы СМІ — як на далоні перад намі, калі мы чытаем пра Беларусь у заходніх мэдыях, няважна, пралукашэнкаўскіх (такіх была мізэрная меншасьць), і антылукашэнкаўскіх.**

**Не было ў заходніх аглядальнікаў і далекасяжнага прагназаваньня: усе чакалі панядзелка, бо спадзяваліся толькі на сэнсацыйнае, надзвычайнае — што забясьпечыла б Беларусі месца ў газэтных чартах яшчэ на колькі тыдняў наперад. Ды толькі вось ізноў перамог Лукашэнка. І адбылося гэта і таму таксама, што Захад ведае Беларусь пасьля павярхоўнага знаёмства.**

**Але ў Менску на час выбараў было акрэдытавана тры сотні замежных карэспандэнтаў і восем соцень замежных назіральнікаў. Такой цікавасьці да Беларусі сьвет не выяўляў ніколі. Мінулыя выбары — першыя — адбываліся ў адзін дзень з украінскімі, якія значылі для лёсаў рэгіёну нашмат болей. Цяпер — нібыта прарвала заслону маўчаньня. Можна толькі ўявіць, якую цікавасьць да Беларусі будуць выяўляць на наступным народным плебісцыце. Калі ён адбудзецца: Лукашэнка прызнаўся ў сваім шматзначным намеры за пару гадоў памяняць Канстытуцыю.**

**У гэтым нумары "НН" — наша краіна ў крывым люстэрку замежнай прэсы.**

**EL PAIS**
Гішпанія
*26 жніўня*

## Лукашэнкаў страх

У Беларусі, якая праз колькі год будзе мець супольную мяжу з Эўразьвязам, запраўляе апошні дыктатар Эўропы Аляксандар Лукашэнка. Ён жадае, каб 9 верасьня яго зноў абралі на пяцігадовае прэзыдэнцтва. Каб дамагчыся пераабраньня, Аляксандар Лукашэнка ... цкуе, затрымлівае і садзіць праціўнікаў рэжыму ды іхных сваякоў. Канфіскуюцца наклады апазыцыйных выданьняў. Махіна дзяржаўнае прапаганды прамывае мазгі, паліцэйская дзяржава стварае атмасфэру тэрору. Аднак гэтым разам для даўняга рэжысэра ілжывых выбараў ня ўсё можа пайсьці так гладка. Штодзённа расьце незадавальненьне беларускага насельніцтва Аляксандрам Лукашэнкам. Здавён разьяднаная апазыцыя кансалідавалася вакол адзінага кандыдата, прафсаюзнага лідэра Ўладзімера Ганчарыка.

Зь іншага боку, высьвятляецца ўсё больш дэталяў адносна існаваньня "эскадрону сьмерці", які на замову палітычнага кіраўніцтва зьнішчыў шэраг апазыцыйных палітыкаў і аднаго журналіста.

**le Temps**
Швайцарыя

## Апазыцыя ідзе ў бой аб'яднанаю, але ў Беларусі пахне пераваротам

На лініі старту іх было два дзясяткі. У фінішным забегу іх засталося толькі двое. І рызыкоўны гонар кінуць выклік Аляксандру Лукашэнку на выбарах 9 верасьня выпаў 62-гадоваму кіраўніку беларускіх прафсаюзаў Уладзімеру Ганчарыку. Лукашэнка ўжо публічна выказаў агіду, якую выклікае ў яго выбарчы сцэнар дзівосным чынам аб'яднанай апазыцыі: "Ганчарык – стары апаратчык. І сёньня ён маніцца зьмяняць тую самую краіну, якую сам некалі будаваў. Ён дзейнічае пад ціскам Злучаных Штатаў". Ганчарык мае за сабою ўсе апазыцыйныя партыі, улучна з камуністамі, а таксама прафсаюзы і ўсе дэмакратычныя арганізацыі, пасьля таго, як... Сямён Домаш – згадзіўся зьняць сваю кандыдатуру ўзамен на абяцаньне ў выпадку абраньня Ганчарыка быць прызначаным прэм'ер-міністрам. Улады ўжо выявілі першыя азнакі нэрвовасьці, сканфіскаваўшы тыраж спэцвыпуску газэты "Наша Свабода", дзе на першай паласе былі надрукаваныя вынікі апытаньня, паводле якога за Лукашэнку зьбіраюцца галасаваць толькі 20%. Паводле Ганчарыка, вычудасты беларускі кіраўнік хутчэй за ўсё ня спыніцца і перад тым, каб арганізаваць "буйнамаштабныя правакацыі". А надрукаваны ў адной расейскай газэце сакрэтны дакумэнт паведамляе пра сцэнар дзеяньняў на выпадак перамогі апазыцыі: будуць "спантанна" арганізаваныя патрыятычныя дэманстрацыі, на якіх грамадзяне будуць крычаць пра падман, і ўсё гэта будзе трансьлявацца ў тэлевізіі. Офісы апазыцыі будуць заблякаваныя, і ў гэтым часе будзе абвешчана пра перамогу Лукашэнкі. Уладзімер Ганчарык абяцае ў выпадку абраньня ўзмацніць уладу парлямэнту і зьменшыць паўнамоцтвы прэзыдэнта, даць свабоду сродкам інфармацыі, адкрыта расьследаваць справу "эскадронаў сьмерці", распачаць эканамічныя рэформы і інтэнсыфікаваць зьбліжэньне з Расеяй. Гэты прафсаюзны лідэр лічыць, што яго падтрымае нават намэнклятура: "Функцыянэрам рэжыму ўжо абрыдла жыць, як на вулькане. Кожнага зь іх могуць пасадзіць у турму з прыдуманымі абвінавачаньнямі, або публічна зьэсьціць і выпхнуць у адстаўку за чужыя правіны". Аднак бальшыня назіральнікаў не падзяляе гэтага аптымізму і мяркуе, што Ганчарыкава кааліцыя, з прычыны яе несумяшчальнай стракатасьці, наўрад ці можа спадзявацца ў другім туры на нешта большае, чым на ролю статыстаў.

**The New York Times**
ЗША
*29 жніўня*

## Бітва за Беларусь

Няма лепшага спосабу прымусіць дыктатуру перайсьці да крайніх рэпрэсіяў, чым свабодныя выбары. Гэта адбываецца ў Беларусі, апошнім бастыёне тыраніі савецкага кшталту. Эўразьвяз, Расея ды ЗША павінны сачыць за справядлівасьцю перадвыбарнай кампаніі і сумленнасьцю падліку галасоў. Тым часам урад перашкаджае апазыцыі — забараніў выхад у сьвет шэрагу нумароў незалежных выданьняў і нават спрабаваў зьняць з дыстанцыі галоўнага кандыдата ад апазыцыі Ўладзімера Ганчарыка. Лукашэнка, які прыйшоў да ўлады ў 1994 г. праз дэмакратычныя выбары, не зьбіраецца больш даваць такой магчымасьці нікому іншаму.

**EL PAIS**
Гішпанія
*2 верасьня*

## Спадчыньніца савецкага мінулага

Уражвае агрэсія, зь якой рэжым Лукашэнкі кідаецца на апазыцыю — рэжым прэзыдэнта, які хваліцца, што разумее пачуцьці простых грамадзянаў краіны, што дасюль ня здолела вызначыцца са сваім месцам у супольнасьці эўрапейскіх дзяржаваў.

Рыторыка афіцыйных СМІ базуецца на асабістым, непрыкрытым абражаньні апанэнтаў прэзыдэнта. Доўгія прапагандысцкія праграмы на тэлевізіі нагадваюць найлепшыя часы панаваньня КГБ у Савецкім Саюзе.

Любы чалавек з Захаду ўяўляецца падазронай асобай для афіцыйнай тэлевізіі, якая ўвесь час палохае магчымасьцю вайны і нават намякае на магчымасьць вайсковай апэрацыі NATO супраць Беларусі. Да прапагандысцкага абстрэлу падлучаюцца расейскія палітыкі — камуністычны бос Генадзь Зюганаў і папуліст Уладзімер Жырыноўскі — якія дазваляюць сабе раіць беларусам прагаласаваць за Лукашэнку ды абражаюць ягоных апанэнтаў.

Расейцы маюць правы ўмешвацца ва ўнутраныя справы, а "заходнікі" не. На гэтым тыдні рэжым Лукашэнкі выдаліў з краіны амэрыканскага прафсаюзнага дзеяча Робэрта Філдынга за тое, што той падтрымаў свайго калегу Ганчарыка.

**LA VANGUARDIA**
Каталёнія
*8 верасьня*

## Халодная вайна ў Беларусі

Пасьля перамогі над Мілошавічам прыйшла чарга і да Беларусі. На Балканах не засталося больш маленькай, але незалежнай Югаславіі, якая не падпарадкоўвалася новаму эўрапейскаму ладу, дык на абшары былога СССР Злучаныя Штаты найперш намагаюцца перашкодзіць умацаваньню Расеі праз інтэграцыю са сваімі адвечнымі сатэлітамі — Украінай ды Беларусяй. ВУП гэтых трох краінаў адпавядае 80% ад ВУП усяго СНД, а колькасьць насельніцтва ў іх перавышае 200 млн. Гэткая інтэграцыя дужа нагадвала б адраджэньне СССР і абумовіла б геапалітычнае ды геаэканамічнае пераразьмеркаваньне сілаў у рэгіёне.

Значэньне выбараў у Беларусі, на якіх прэзыдэнт-аўтакрат Аляксандар Лукашэнка, прыхільнік саюзу з Расеяй, спадзяецца быць пераабраным, ня можа быць поўнасьцю асэнсаванае без уліку гэтага. Лукашэнка не зрабіў у Беларусі нечага горшага за тое, што зрабілі ў Расеі ды Ўкраіне Ельцын, Пуцін ці Кучма, але ягоная прыхільнасьць да савецкіх традыцыяў, характэрная для большай часткі беларускага грамадзтва, ды ягоны антызаходні дыскурс абумовілі правядзеньне інтэнсіўнай кампаніі па прыхаваным умяшаньні ва ўнутраныя справы краіны. Дзярждэпартамэнт Злучаных Штатаў абвесьціў Беларусь "краінай-ізгоем".

Адказны за замежную палітыку ЭЗ Крыс Патэрн заклікаў кволую ды разьяднаную беларускую апазыцыю павучыцца ў югаславаў ды злучыцца супраць Лукашэнкі. АБСЭ і Эўрапарлямэнт замарозілі свае стасункі зь Менскам, не зважаючы на пратэсты краінаў, што маюць у іх статус назіральніцаў. Калі ў лістападзе 2000 г. украінскі прэзыдэнт Леанід Кучма скіраваў сваю палітыку ў расейскі бок, у Кіеве выбухнуў "Кучмагейт" — сэнсацыйная справа, цэнтрам якое сталася забойства журналіста. Галоўны абвінаваўца атрымаў палітычны прытулак у Злучаных Штатах, дзякуючы людзям з Кіева, зьвязаным з ЦРУ. Цяпер у Менску супраць Лукашэнкі высоўваюцца абвінавачваньні ў стварэньні "эскадронаў сьмерці", вінных у зьнікненьні больш за 30 чалавек, але пераканаўчых доказаў няма.

Беларускі міністар замежных справаў Міхаіл Хвастоў кажа, што Злучаныя Штаты ўмешваюцца ва ўнутраныя справы праз "подкуп чыноўнікаў другога рангу, адмову ў візах афіцыйным дэлегацыям, правядзеньне NATOўскіх манэўраў, такіх, як нядаўна ў Літве, ды прыхаваную падтрымку апазыцыі".

Амэрыканскі пасол у Менску Майкл Козак гэтак выказаўся ў брытанскай прэсе: "Нашыя мэты і мэтады ў Беларусі такія самыя, што мы выкарыстоўвалі ў Нікарагуа". Злучаныя Штаты дасылаюць у Беларусь дыпляматаў, якіх ужо можна было бачыць на Балканах ды ў Іраку і якіх заходняя прэса падазрае ў супрацоўніцтве з ЦРУ. Былы пасол на Кубе, дыпляматычны функцыянэр у Нікарагуа ды Сальвадоры ў "цёмныя" часы, пасол Козак паехаў працаваць у Паnаму ў 1988 г., напярэдадні вайсковай апэрацыі, а цяперашні дзяржсакратар ЗША Колін Паўэл тады быў дарадцам па справах нацыянальнай бясьпекі ў Адміністрацыі Рэйгана, — кажа Хвастоў. Пры Козаку амэрыканскае пасольства дапамагло стварыць у Менску каля 300 пазадзяржаўных арганізацыяў. Хвастоў, да таго ж, ахарактарызаваў кіраўніка місіі АБСЭ ў Беларусі, немца Ганса-Георга Віка, як "прафэсійнага шпіёна", афіцыйная ж прэса заяўляе пра правядзеньне апэрацыі спэцслужбаў краін NATO (ЦРУ, нямецкай BND ды брытанскай MI-6), мэтай якой зьяўляецца "скіданьне Лукашэнкі".

Відавочна, што размова вядзецца пра халодную вайну, якая мае не дапусьціць зьмены раскладу сілаў на ўсходзе Эўропы, і таму ў Менску навіною ці скандалам робіцца тое, на што не зьвярнулі б увагі ані ў Маскве, ані ў Кіеве, ані ў іншых месцах, дзе ізгоі зьяўляюцца сябрамі.

**FINANCIAL TIMES**
The global daily of business
Ангельшчына
*8 верасьня*

## Беларускай апазыцыі цяжка падчас выбараў

Аляксандар Лукашэнка, аўтакратычны лідэр краіны, дамагаецца пераабраньня, выхваляючыся сваімі посьпехамі ў разьвіцьці эканомікі, якая сталася адной з найслабейшых у Эўропе пасьля ягонага прыходу да ўлады ў 1994 г.

Ягоны галоўны апанэнт, Уладзімер Ганчарык, вэтэран прафсаюзнага руху, глядзіць з плякатаў шчырымі вачыма, убраны ў цёмны гарнітур з чырвоным гальштукам.

Сяргей Гайдукевіч, трэці, маргінальны кандыдат, на плякаце сядзіць за сталом з мала не круцельскім выглядам.

Большасьць аглядальнікаў лічыць, што Лукашэнка будзе пераабраны на другі тэрмін. У сваёй палітыцы ён робіць акцэнт на рэінтэграцыю з Расеяй і няспынную канфрантацыю з заходнім сьветам.

Ганчарык спрабуе пераманіць на свой бок памяркоўных выбарцаў, па-першае, сваёй сьціпласьцю, па-другое, выкарыстоўваючы абмежаваны доступ да афіцыйных мэдыяў, манапалізаваных урадам. Ён ня мае вызначанай перадвыбарнай праграмы. Ягоным козырам зьяўляецца непахіснае супрацьстаяньне Лукашэнку, ён публічна заяўляе, што шэраг апанэнтаў прэзыдэнта быў забіты падуладнымі рэжыму "эскадронамі сьмерці".

У Лукашэнкі няма праблемаў з доступам да СМІ. Выбары ня выбары, а ён быў і застаецца галоўным героем праграмаў дзяржаўнае тэлевізіі.

У прыватных размовах члены каманды Ганчарыка згаджаюцца, што яны ня маюць шанцаў на перамогу. Апошнія апытаньні сьведчаць, што гэты кандыдат можа атрымаць 25% галасоў.

На публіцы ж палітыкі трымаюцца значна больш упэўнена. Віктар Чарноў, дарадца Ганчарыка, кажа, што найлепшым варыянтам будзе, калі Лукашэнка не набярэ паловы галасоў у першым туры. Улічваючы сапсаваныя бюлетэні ды галасы, адданыя за Гайдукевіча, ёсьць спадзяваньні, што Ганчарык адбярэ ў Лукашэнкі каля 40% галасоў.

Найбольшыя праблемы для Захаду пачнуцца ў панядзелак у выпадку перамогі Лукашэнкі, чыя рэпутацыя падмочаная несумленнай кампаніяй, але якога падтрымлівае большасьць насельніцтва.

# Прайграе Беларусь

Працяг са старонкі 1.

Кампанія адзінага кандыдата разгорталася млява. Грамадзтва лічыла яго застарым для высокай пасады. Разьлікі на дапамогу ці хоць бы нэўтралітэт Масквы разьляцеліся ўшчэнт. Досыць высокі працэнт галасоў быў пададзены супраць усіх кандыдатаў. Такія першыя высновы з вынікаў галасаваньня.

Між тым перамога ППРБ зусім не пераканаўчая. Афіцыйныя зьвесткі кажуць пра больш за 70% галасоў, у штабе Ганчарыка называюць лічбу 46%.

Нават калі ня верыць да канца ні тым, ні тым, вынікае, што Лукашэнка і далёка ня мае агульнанароднае падтрымкі.

Намесьнік старшыні КХП-БНФ У.Старчанка назваў афіцыйныя вынікі "абсурднымі". Прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацыяў выказалі сумнеў у магчымасьці прызнаньня такіх выбараў легітымнымі. В.Вячорка мяркуе, што ня ўсюды назіральнікам удалося дапільнаваць на этапе папярэдняга назіраньня і 9-га. Унутраныя і заходнія назіральнікі сыходзяцца на тым, што маніпуляцыі вынікамі выбараў былі істотнымі. У адных Баранавічах, паведамляе кіраўнік "Незалежнага Назіраньня" па горадзе сп.Гоўша, было зафіксавана больш за 50 парушэньняў заканадаўства. У Менску на суседніх участках лічбы скачуць на дзясяткі працэнтаў. А.Трусаў прыводзіць сьведчаньні назіральнікаў з розных участкаў Менску, дзе стос бюлетэняў за Ганчарыка быў вышэйшы за Лукашэнкаў. А Ганчарыкаў вынік, абвешчаны старшынём камісіі, меншы. "Сябры камісіяў пасьля былі шакаваныя ня менш за назіральнікаў, якіх трымалі воддаль ад месца падліку. Апроч таго, ніхто ня ведае нават дакладнай колькасьці выбарцаў. Пра які падлік можна весьці гаворку? Падмяняліся скрыні, пячаткі, людзі ў скуранках прылюдна ўкідвалі пачкі бюлетэняў. Іх хапалі за рукаво назіральнікі, а міліцыя адпускала, — кажа сп.Трусаў. — У зводных пратаколах не вывешваецца колькасьць галасоў, пададзеных "супраць усіх", што таксама паказальна".

Лукашэнка выйграў ня выбары, а інфармацыйную вайну. Цаною таго, што легітымнасьць беларускае ўлады ізноў будзе няпоўная. Дзяржава Беларусь на гэтых выбарах прайграла.

**Барыс Тумар**



Лідзія Ярмошына: "Выбары прайшлі беззаганна".

## Пацярпелыя за Беларусь

1 верасьня ў Наваполацку была затрыманая Маргарыта Тамілава – за тое, што ішла па вуліцы з накінутым на плечы бел-чырвона-белым сьцягам. У Берасьці міліцыянты зьбілі Сяргея Вакуленку за перадвыбарную агітацыю. У Рэчыцы затрымалі Натальлю Брэль і пасадзілі ў СІЗА. Яе кватэру, а таксама кватэры Зьмітра Цярэнцьева і Крысьціны Барбакадзэператрэсьлі. 2 верасьня ў Ашмяне затрымалі школьніка Сяргея Канеўку. 3 верасьня ў Слуцку за распаўсюд спэцвыпуску "Нашай Свабоды" затрымалі "зуброўца" Андрэя Акулава. У Магілёве за тое самае затрымалі Алену Лазараву, а ў Салігорску – "зуброўцаў" Валер'я Серафімовіча, Аляксандра Макарэвіча, Сяргея Панцяйкова, Глеба Бухаўца, Кірылу Рабыкіна ды Валянціна Бесмана. У Менску затрымалі Івана Саевіча, на якім была майка з выявай "Пагоні" й надпісам "Жыве Беларусь!". У Баранавічах затрымалі сябра КХП-БНФ Яўгена Даўгіловіча, які заклікаў галасаваць супраць усіх. У Менску спрабавалі затрымаць актывістку КХП-БНФ Сьвятлану Захарэвіч, якая распаўсюджвала перадвыбарныя матэрыялы. Міліцыю выклікалі агітатары з лукашэнкаўскага штабу. За распаўсюд спэцвыпуску газэты "Народная Воля" затрыманы Павал Знавец, дэпутат Вярхоўнага Савету. У Пінску 5 верасьня затрымалі Алеся Васільева, які распаўсюджваў спэцвыпуск "Народнай Волі". У Чэрыкаве была затрыманая Людміла Раманенка, што агітавала за Уладзімера Ганчарыка. 6 верасьня ў будынку КДБ быў затрыманы Павал Севярынец, якога выклікалі туды ў якасьці сьведкі ў справе выбуху на тэрыторыі расейскай амбасады. 6 жніўня ў Шклове кватэру актывіста апазыцыйнага руху сп.Шчарбака ператрэсьлі. У Бабруйску

Сяргей Паўлоўскі

# "Восень патрыярха"

**Здаўна людзі называюць гэтую дарогу прэзыдэнцкай. Ад менскай Нямігі яна цягнецца праз Дразды і ўпіраецца ў вёску Ждановічы. Дарога шырокая і заўсёды пустая, на ўзбочынах заўсёды пасьвяцца козы, а абапал дарогі цягнуцца азёры, вада ў якіх заўсёды, пры любым надвор'і выглядае нежывою, быццам пад ёй хаваюцца нейкія падводныя вайсковыя аб'екты... Я злавіў сябе на тройчы паўтораным "заўсёды" і згадаў трапны жарт, пачуты некалі ад дзіцяці: маўляў, у гэтых азёрах сам Лукашэнка купаецца ў браняваных плаўках.**

Лукашэнка, а дакладней ягоны дух, прысутнічае тут ня толькі ў вадзе альбо ў народнай назьве дарогі, ён пасяляецца і ў радкіх машынах, што, здараецца, праяжджаюць тут і, пры абмежаваньні хуткасьці да 90 кілямэтраў на гадзіну, абавязкова скідаюць да 80 і ніжэй. Магчыма, яны робяць гэта ад боязі ці перастрахоўкі. Каб чагосьці ня выйшла. А магчыма таму, што радыё ў машыне заўсёды гаворыць голасам кіраўніка краіны і ў голасе тым гучыць пагроза паранейшаму будаваць жыльлё, як заўсёды, клапаціцца пра чалавека працы, надалей сябраваць з Расеяй і даваць адпор Захаду разам зь ягонай цывілізацыяй.

Радыё спыніць нельга. Аляксандар Лукашэнка сустракаецца з выбаршчыкамі ўжо пятую гадзіну. За гэты час мяне на прэзыдэнцкай дарозе канчаткова апаноўвае нейкі лацінаамэрыканскі настрой. Я думаю пра падабенства іхных і нашай дыктатуры. І калі ён распавядае пра сваё званьне падпалкоўніка, якое не замінае яму надзяваць свой маршальскі мундзір — гэта гучыць як росьпіс, як шчырасьць, што выклікае на памяць радкі з Маркесавай "Восені патрыярха":

*"І тады ён ледзь прачныў дзьверы сваёй патаемнай спальні і, гледзячы ў шчыліну, убачыў у залі паседжаньняў сваё мёртвае цела, атачанае запаленымі сьвечкамі, сваё мёртвае цела, апранутае багацей за любога зь нябожчыкаў Рымскіх Пап на працягу ўсёй гісторыі каталіцтва, аднак вусьціш і сорам уразілі яго, калі ён глядзеў на тое цела, уласнае ягонае цела, што патанала ў кветках, з тварам, белым ад пудры, з нафарбаванымі вуснамі, з скасьцянелымі рукамі капрызьлівай какеткі, складзенымі на пакрытых бранёю рэгаліяў грудзях, цела, апранутага ў прыдуманы кімсьці спэцыяльна для нябожчыка мундзір Генэрала*



*Сусьвету, зь дзясяткам яркіх сонцаў на пагонах..."*

Новыя пяць гадоў ягонага кіраваньня ўяўляюцца цалай вечнасьцю, як ужо вечнасьцю падаюцца гады мінулыя. Верагодна, іх ня сем. І ён мае рацыю, калі кажа, што за гэтыя сем пражыў усе трыццаць ці, як мінімум, дваццаць пяць. Я зноў згадваю лацінасаў, якія навучылі нас, што дыктатура вымяраецца не гадамі, а вечнасьцю. Бо гэта спынены час — аднастайны і нязьменны. Ён — заўсёды.

Тым часам у радыё нейкая жанчына распавядае пра Пятра Міронавіча Машэрава, і я думаю пра невыпадковасьць таго, што гэтая прэзыдэнцкая дарога, па якой еду, носіць імя Машэрава. "Ды вы, Аляксандар Рыгоравіч, ад Пятра Міронавіча і крохі пабралі", — кажа кабета нешта з такім вось сэнсам і пры бурных воплесках залі. Словам, поўная пераемнасьць. Асабіста для мяне, калі зазіраць туды, у часы да Машэрава, дык ужо не ва ўласную памяць, а хіба што ў кнігі. Сапраўды, цэлая вечнасьць. І неістотна — пяць гэта гадоў ці дваццаць пяць.

Раман пра вечнасьць дыктатара — "Восень патрыярха" Габрыеля Гарсія Маркеса ўпершыню ў Савецкім Саюзе быў перакладзены якраз у Менску і якраз у часы Машэрава. Зрабілі гэта Валянцін Тарас і Карлас Шэрман. Але тады наўрад ці хто думаў пра Машэрава. Разуменьне таго, з чым насамрэч мы маем справу і наколькі менавіта нас гэта ўсё тычыцца, прыходзіць у поўным аб'ёме толькі сёньня, перад новай пяцігодкай вечнасьці. Сёньня гаворка пойдзе пра стаўленьне да дыктатуры ў лацінаамэрыканскіх і беларускіх пісьменьнікаў — у чым яно падобнае і ў чым адрознае.

* * *

*"На зыходзе тыдня сьцярвятнікі-грыфы разьдзёрлі мэталёвыя аконныя сеткі, праніклі праз гаўбец і вокны ў прэзыдэнцкі палац, узмахамі крылаў скаланулі ў палацавых пакоях задушнае паветра застаялага часу, і ў панядзелак на сьвітанку горад ачомаўся нарэшце ад векавога летаргічнага сну, у які ён быў пагружаны разам са сваёй ператоранай у гнільлё велічу; толькі тады мы насьмеліліся ўвайсьці, і ня трэба было аблогаю браць крапасныя сьцены, да чаго заклікалі адныя, самыя сьмелыя, альбо тараніць дышламі валовых павозак парадны ўваход, як прапаноўвалі іншыя, бо варта было толькі дакрануцца, як самі сабою расчыніліся бранявыя вароты, якія ў слаўныя для гэтага будынку часы выстаялі пад ядрамі Ўільяма Дэмпіра, і вось мы ступілі ў мінулую эпоху і ледзьве не задыхнуліся ў гэтым агромністым, ператорваным у руіны бярлогу ўлады, дзе нават ціышыня была лядашчай, сьвятло хісткім, і ўсе прадметы ў гэтым хісткім, прывідным сьвятле адрозьніваліся няясна..."*

**Габрыель Гарсія Маркес.**
**"Восень патрыярха"**

Беларуская літаратура не нарадзіла нагэтулькі магутнага рамана пра дыктатара. Дакладней, пра свайго дыктатара. Дакладней, пакуль не нарадзіла. І каб зусім ужо дакладна — беларуская літаратура не напісала пакуль пра сваіх людзей ва ўмовах сваёй дыктатуры. Чаму? Найперш таму, што, у адрозьненьне ад лацінасаў, яна не хацела мірыцца з жыцьцём пад уціскам. Яна, вядома, шмат казала пра дыктатуру, але гэта былі хутчэй засьцярогі ад магчымае сытуацыі, чым ад таго, што ёсьць насамрэч. Пісьменьнікі ўяўлялі сябе палітыкамі і прарокамі, ад якіх залежыць зьмена палітычнае і грамадзкае сытуацыі. Вось яшчэ трохі — галадоўка ў парлямэнце, і яшчэ — Чарнобыльскі шлях, і яшчэ — заявіць на ўвесь сьвет пра брутальныя арышты, альбо — самадзейныя прэзыдэнцкія выбары і байкот парлямэнцкіх — здаецца, яшчэ зусім трохі падналегчы і нашая праўда пераважыць, перацягне. І так з дня ў дзень, зь месяца ў месяц. Аднак, нічога не зьмянялася. І яны зноў шукалі новага спадзеву. А раптам спрацуе заява дзяржсакратара, а раптам Ельцын, а раптам Пуцін. Усё, здавалася ім, можа вырашыцца за хвіліны. І так сем гадоў. Гэткі быў погляд беларускага творцы. Ня дзіва, бо менавіта творцы ў нас былі завадатарамі і перастройкі, і незалежнасьці.

Лацінасы пазіралі як дзеці. Сьвет навокал такі, які ён ёсьць — несправядлівы, грубы, улада хамская, жорсткая. Верагодна, некалі, праз вечнасьць, яна зьменіцца на іншую, але мы жывем і пішам цяпер — мы дасьледуем свайго чалавека менавіта ў такіх умовах.

Урэшце, для пісьменьніка існуе свая вечнасьць. Гэта газэтчыку альбо палітыку так важная праблема ўлады або выбары. Гэта ім важна надаць значнасьць сёньняшняму дню. Гэта для іх вечнасьць — не крытэр. Гэта яны кажуць пра нелегітымнасьць як пра свой інструмэнт. А ў пісьменьніка такога інструмэнту няма.

Беларускі пісьменьнік перастаў быць палітыкам. Гэта значыць, што нелегітымнасьць улады ўжо ня можа заспакоіць яго. Яму вяртаюцца ягоныя прафэсійныя функцыі — прымаць чалавека і сьвет такімі, якія яны ёсьць. Толькі так ён можа быць дасьледнікам жыцьця. Верагодна, цяперашні злом у беларускай палітыцы ўсё паставіць на свае месцы. 7 гадоў пісьменьнік чакаў або змагаўся, а цяпер ён, як змагар, канчаткова ўпёрся ў маналіт жыцьця. Ужо зьмененага, ужо іншага. Ягоны супляменьнік толькі й паўтарае, што хоча ЖЫЦЬ тут і цяпер. Кахаць, працаваць, зарабляць грошы, нараджаць дзяцей — сёньня. І ніякіх сямі гадоў на чаканьне няма і быць ня можа.

Што такое нелегітымнасьць улады для літаратара? Гэта значыць, што літаратар выходзіць адзін на адзін з прэзыдэнтам і горда кажа — падай, ты забіты, я ў цябе патрапіў, цябе няма. Слушна, — адказвае дыктатар, — гэта слушна, пакуль мы гуляем у змаганьне. Але гульня скончаная. Дакладней, кожны будзе гуляць на сваім полі. Я магу цябе закапаць на Паўночных могілках, а ты можаш закапаць мяне ў вачох майго народу і ўсяго сьвету, калі напішаш сваю "Восень патрыярха" і атрымаеш Нобэлеўскую прэмію.

Тысяча выкрывальніцкіх тэкстаў — вершаў, апавяданьняў і п'есаў, у якіх аспрэчвалася і высьмейвалася папуліцкая дэмагогія — усё гэта выматала пісьменьніка і ўжо не ратуе. Ня тая зброя. Застаецца сказаць — ён ёсьць. І гэта дадзенасьць. І мы ў гэтай дадзенасьці жывем і вывучаем чалавека менавіта ў ёй. Для літаратуры адкрываецца цэлае поле дзейнасьці. Сапраўды, наш чалавек можа прапасьці бязь сьледу, і быць тым, хто ўчыняе прапажу. У абодвух за плячыма цэлы клубок сувязяў і матывацыяў. Рыбакі і Сотнікавы дожкаць сваю біблейскую палеміку ў вечнасьці.

Гаворка ня йдзе аб прыманьні ці непрыманьні ўлады. Пісьменьнік заўсёды ў апазыцыі. Але беларуская літаратура за савецкім часам была адвучаная ад таго, каб быць у маральнай апазыцыі. І толькі цяпер яна апынулася на сваім месцы, канчаткова пакінуўшы ўладныя пасады і быццам наноў засяляючы свой пакінуты на час Парнас.

Калі б Дастаеўскі ставіў на мэце адмаўленьне свайго Мёртвага дому, а Горкі — свайго Дна, а Быкаў — сваёй Вайны, калі б яны выступалі змагарамі супраць самое наяўнасьці гэтых агідных праяваў жыцьця — не было б літаратуры. Безумоўна, як грамадзяне яны супраць. Але іхная справа выявіць гэта праз прыроду чалавека, які сам творыць сваё пекла. Бо яшчэ Сартр апісаў у сваёй п'есе "Пры зачыненых дзьвярах" ня толькі рукатворнасьць пекла, але й марнасьць спробаў пісьменьніка змагацца зь ім, бо інакш трэ было б змагацца з чалавекам, у якім ёсьць і добрае, і злое.

За савецкім часам так і было — дыктатар успрымаўся як дадзенасьць і ніводзін пісьменьнік не задаваўся ідэяй замяніць Машэрава або Панамарэнку, ніхто ня жыў чаканьнем іхнага сыходу, ніхто не высьмейваў дурасьці, сказанай мажнаўладцам, настолькі маналітнай была ўлада. Напярэдзе ў пісьменьніка была вечнасьць тварэньня, поўная рызыкі і спадзеву на цудоўнае адкрыцьцё. Іншая рэч, што часьцяком ён абіраў кан-

затрымалі Ірыну Качан, Тацяну Машкоўскую і Вадзіма Лісоўскага, якія агітавалі за Ганчарыка. У Віцебску затрымалі Аксану Філімонаву. У Чэрвені на выбарчым участку затрымалі каардынатара "Незалежнага Назіраньня" Генадзя Матусевіча. Яго абшукалі, дапыталі, сканфіскавалі зварот да супрацоўнікаў МУС і адпусьцілі. У Менску затрымалі каардынатара "Незалежнага Назіраньня" па Савецкім раёне Аляксандра Галіча за тое, што назваў старшыню выбарчай камісіі "нягоднікам". На яго склалі пратакол за дробнае хуліганства і зьмясьцілі ў прыёмнік-разьмеркавальнік.

## Бабруйск у надзейных руках

**У мінулы панядзелак у каледж, дзе навучаецца былы старшыня Бабруйскай суполкі Маладога Фронту Валеры Мацкевіч, патэлефанавалі з гарвыканкаму і загадалі разабрацца зь ім — ён, маўляў, пісаў у горадзе "Забі прэзыдэнта!".** Аднак, такіх надпісаў у Бабруйску не было й няма, дый Валеры адышоў ад дзейнасьці яшчэ ў траўні. У чацьвер, 6 верасьня, невядомы падпалкоўнік міліцыі абзвоньваў бацькоў маладзёнаў, што калісьці "сьвяціліся" на масавых акцыях у Менску ці ў Бабруйску, і прымушаў іх гарантаваць знаходжаньне дзяцей 9 і 10 верасьня ў родным горадзе.

**Б.Т.**

## Зь месца падзеяў



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

**Апоўначы нехта разьбіў шкло ў дзьвярах Палацу прафсаюзаў. Ахову ля разьбітых дзвярэй узялі на сябе хлопцы ў банданах, якія міжсобку размаўлялі па-расейску. На пытаньне "Хто вы?" быў атрыманы адказ: "Граждане Республики Беларусь". Пазьней Ганчарык прайшоў у сярэдзіну будынку, дзе запатрабаваў "кінуць хлапечыя жарты", бо "ніякага рамантызму тутака не павінна быць".**

**Пасьля Ганчарык зачытаў заяву, у якой абвесьціў аб скандальных памерах фальсыфікацый і прывёў лічбы, якія падаюць прафсаюзныя назіральнікі: за Гайдукевіча 7,1%, за Ганчарыка 40,8%, за Лукашэнку 46,6%. Адзіны кандыдат запатрабаваў правядзеньня другога туру выбараў і заклікаў усіх грамадзянаў прыходзіць ураньні а 10-й на Кастрычніцкую плошчу.**



фармісцкі шлях.

Выбары і ў прынцыпе выбар для нашага літаратара, які прызвычаіўся быць пры ўладзе, сталі спакусай на цэлыя апошнія дзесяць гадоў. Няўжо і праўда можна зьмяніць свой сьвет і спрычыніцца да ягонае зьмены? Зорка Габрыеле Д'Анунцыё для кагосьці, а для кагосьці зорка Юкіа Місімы зазьзяла на поўную моц. Але калі іхнае халоднае зьзяньне і напаўняла сэрцы адзінак, дык для літаратуры таго сьвятла не было відаць наагул.

* * *

У нядаўна надрукаванай гутарцы Алеся Адамовіча і Васіля Быкава Быкаў кажа, што ня ставіць на мэце ані зьмяніць сьвет, ані палепшыць чалавека. Мэта — паказаць чалавеку, што ў ім ёсьць і добрага і благога. І калі чалавек гэта ўбачыць, мяркуе Быкаў, ён паразумнее.

Сказана — пісьменьнік заўсёды ў апазыцыі. Можа быць, гэта апазыцыя да недасканалага сьвету. І тут ёсьць спакуса ўсю тую недасканаласьць сьвету зьвесьці да гэтага вось дыктатара і ягонага рэжыму. Зьменім — і ўсё будзе добра. Усё можа быць па-іншаму.

Ня будзе. Нічога ня зьменіцца. Самы час прыгадаць Астурыяса зь ягоным раманам "Пан прэзыдэнт". Гаворка ідзе пра дыктатуру Эстрады Кабрэры:

"*Дыктатура — гэта страшны ядавіты павук, які разбэшчвае, падкупляе, запалохвае ўсе клясы грамадзтва, людзі робяцца альбо бяздушнымі мэханізмамі, альбо фанатыкамі, альбо брыдкімі прыстасаванцамі. Некаторыя думаюць, што пасьля дыктатуры настане новы час і ўсё стане на свае месцы. На жаль, гэта ня так. Мінаюць гады, а дух дыктатара і ягонай сыстэмы ўсё жыве і жыве. Чаму? Ды таму, што дыктатура разьядае грамадзтва да мозгу костак*".

Між іншым, гватэмалец Астурыяс упершыню выдаў свой раман гадоў праз пятнаццаць пасьля таго, як напісаў яго, прычым выдаў за ўласныя грошы і толькі за мяжою — у Мэксыцы. Для пісьменьнікаў з Паўднёвае Амэрыкі гэта тыповая сытуацыя, як і творчасьць у выгнаньні, з чым беларускія літаратары пачалі знаёміцца толькі за часамі гэтай самай *сваёй* дыктатуры.

Магу дапусьціць, што сьвет зьмяняецца не дыктатарамі і змагарамі — знакавымі постацямі з нацыянальнае гісторыі. Усё ня так хутка і ня так пасьпяхова. Калі мы мроім пра эўрапейскую цывілізацыю, дык яна ўся складаецца з цывілізацыяў нацыянальных, што высьпелі праз неверагодныя церні агульнага граху і агульнага пакаяньня. Той, каму ўдалося ў гэтым тралейбусе праехаць зайцам, той сёньня і мае тое, што мае — або дыктатуру, або нябыт. Гісторыя — надта строгі і непадкупны кантралёр.

А як жа тады грамадзянская пазыцыя пісьменьніка? Можа быць яна ўжо ня ў тым, каб выйсьці на пляц, на мітынг і сказаць прарочае слова пра тое, што рэжым абавязкова ўпадзе. Можа яна ў тым, каб з усіх сілаў імкнуцца ўразіць сьвет раптоўным зразуменьнем у чалавеку таго, чаго раней неяк не заўважалі, і ў тым, каб данесьці гэтае зразуменьне, набыць высокі аўтарытэт. Каб у масавай сьвядомасьці Беларусь Лукашэнкі зьмеркла перад Беларусяй пісьменьнікаў — адсюль столькі спадзеву на гэтую Нобэлеўскую прэмію. Але каб цэлым атрадам нашыя літаратары імкнуліся да прызнаньня ў сьвеце, а тады і дома. Гэтак, скажаце, дакаціўся я да тых самых словаў, што кажа дыктатар: няхай пісьменьнікі пішуць. Толькі ў гэтым "няхай пішуць" ёсьць два розныя сэнсы. Няхай пішуць "Восень патрыярха". Новая пяцігодка можа даць ім для гэтага шмат матэрыялу.

Дыктатар сапраўды рукатворны. У стварэньні яго ўдзельнічае ўвесь народ. Больш-менш тыпова выглядае шэраг апалягетаў — прапагандыстаў, самадураў і запалоханых. Тут найменш выяўляецца нацыянальная сутнасьць. Але за дзесяць гадоў стварыліся вобразы апазыцыйнага палітыка, апазыцыйнага творцы, апазыцыйнае моладзі — такія непадобныя да падобных у іншых культурах. І самае галоўнае — паўстаў зусім іншы беларус, якога раней не было. Гэта беларус перад выбарам. Ён разнастайны, але таксама раскладаецца на акрэсьленыя тыпажы.

Варта згадаць і яшчэ адзін досьвед паўднёваамэрыканскіх дыктатураў. Яны спрычыніліся да стварэньня нацыяў. Гэта факт. Гішпанская Амэрыка ператварылася ў коўдру з рознакаляровых лапікаў. І далося гэта цаною многіх і многіх жыцьцяў. Не паўсюль удаюцца тыя аксамітныя або сьпеўныя рэвалюцыі.

Мы ня можам не заўважаць, колькі насуперак уціску мовы за гэтыя сем гадоў стала ў Беларусі беларускамоўнае моладзі. Уменьне мовы стала добрым тонам палітыка, перадусім апазыцыйнага. І самае апошняе сьведчаньне — у культурніцкіх асяродках ужо не гавораць, што гіне мова, нацыя і Бацькаўшчына. Вось чаму я раблю выснову, што беларуская "Восень Патрыярха" можа быць ня менш значнай, але безумоўна іншай паводле духу і мовы — яна будзе напісаная па-беларуску, раскажа пра Беларусь сьвету.

Не хачу, каб падумалі, што я стаўлю нацыянальнае станаўленьне ў заслугу дыктатуры. Гэта прыродная зьява і адбываецца сама сабою. Але гарт нацыя набывае ў супрацьстаяньні. Альбо ў экспансіі вонкі, або ўнутры сябе мацнее духам. Гэта аб'ектыўныя рэчы. Нельга ўхваліць вайну і ГУЛАГ, але беларуская інтэлігенцыя, якая прайшла гэтыя два пеклы — яна сапраўды найбольш загартаваная, мужная, верная Бацькаўшчыне і людзкая.

У пісьменьнікаў з Лацінскай Амэрыкі часьцяком сустракаем эпахальныя выразы, якія падтрымліваюць адчуваньне велічы і вечнасьці нікчэмных дыктатараў. Запомнілася ў Маркеса — Эпоха Вялікага Шуму. У беларускай літаратуры гэткіх звышазначэньняў яшчэ, бадай, не завялося. Аднак паралелі з лацінасамі і іхнымі дыктатурамі пачаліся ад самага пачатку выбраньня Аляксандра Лукашэнкі. Нават яшчэ перад ягоным выбраньнем. У надрукаваных у "Нашай Ніве" "Казках пра кандыдатаў" — гэта калектыўны твор Глёбуса, Клімковіча і Сьцяпана — яшчэ ў 94-м годзе была зробленая спроба мэтафарычна перадаць сутнасьць кожнага з кандыдатаў. Тады іх было шэсьць. Кебіч зьбіраў грыбы, Шушкевіч лячыў галубку, Пазьняк змагаўся з камуністамі, Новікаў дапамагаў пэнсіянэрам, Дубко адмаўляўся ад мэдаля. Пераможца — хто б тады пра такое мог і падумаць — насіў самбрэра. Казка пра яго, яшчэ кандыдата, так і называлася — "Лукашэнка і самбрэра":

"*Вельмі ўжо да твару Алесю Рыгоравічу Лукашэнку звычайнае мэксыканскае самбрэра. Надта ж зручная рэч, нашмат лепшая за цюбяцейку ці генэральскую папаху. І ў сьпёку заўсёды цень знойдзеш, і ў дождж не замокнуць дэпутацкія плечы. Насіў бы і насіў Алесь Рыгоравіч сваё самбрэра, у якім так хораша гойсаць на саўгасным "козьліку" ад кароўніка да сьвінарніка, але закінуў лёс Лукашэнку ды ў сталіцу. Змог бы і ў горадзе Алесь Рыгоравіч насіць любы сялянскаму сэрцу галаўны ўбор, каб была ў яго службовая машына з адкрытым верхам. Але не такі ён чалавек, каб перарабляць машыну пад сябе і кідаць на вецер народныя грошы. І паспрабаваў Лукашэнка езьдзіць у грамадзкім транспарце, бо хацеў захаваць імідж простага мэксыканскага селяніна. Але як ты ўваб'ешся-ўпіхнешся ў лацінаамэрыканскай шапцы ды ў менскі тралейбус?! Раз брылі пакамечылі, другі пакамечылі, і давялося Алесю Рыгоравічу Лукашэнку павесіць сваё самбрэра на цьвік. Але ня трациць надзеі Лукашэнка, што надыдзе час, калі будзе ў яго машына з адкрытым верхам* ".



Праз два гады ў "Нашай Ніве" друкаваўся ўрывак з згаданага раману Мігеля Астурыяса "Пан прэзыдэнт" — таксама знакавая рэч. Нарэшце пад новыя выбары "Наша Ніва" зьмясьціла эсэ Габрыеля Гарсія Маркеса пра Уга Чавэса. Натуральна, не магу тут пералічыць усе выпадкі беларуска-амэрыканскіх паралеляў за часы Лукашэнкі. Але не магу не згадаць песьню "Дон Лукаса" Зьмітра Бартосіка. Песьня, відаць, актуальная, бо і цяпер сьпяваецца на мітынгах у падтрымку Ганчарыка.

Тым ня менш, татальнага параўнаньня з паўднёваамэрыканскімі дыктатурамі не было. Магчыма, інтэлігенцыя ў душы пабойвалася, што мэтафара стане ўстойлівай. Таму знаходзіліся і розныя іншыя вобразы — Лука Мудзішчаў або таварыш Сапега. Інтэлігенцыя баялася, каб ні на хвіліну не спыніўся час. Каб магчымасьць пераменаў заставалася пэрманэнтна.

Можа быць, лацінасы, пішучы пра вечнасьць дыктатуры, імкнучыся да нязьменнасьці дэкарацыяў, што спрыяла спакойнаму дасьледаваньню чалавека ў гэтых дэкарацыях, нават гіпэртрафуюць час дыктатуры і пэрыяд кіраваньня дыктатара. Адсюль "сто гадоў адзіноты". Ня дзіва, што і наш чалавек іншы раз наіўна гукае пра тое, што вось быў Машэраў, а цяпер такі самы — Лукашэнка. Я вымавіў слова "наіўна", каб яшчэ раз зьвярнуць увагу на дадзенасьць сьвету, якім яго ўспрымае дзіця і пры якой толькі і магчымыя дзіцячыя вобразы, што сьветлымі водсьветамі кладуцца на ўсё жыцьцё, а таксама каб нагадаць, што і пісьменьнік мае справу з падобнымі вобразамі і водсьветамі, адкуль і струменіць ягоны талент, каб нагадаць, што пісьменьнік і паводзіць сябе ў палітыцы часьцяком наіўна, па-дзіцячаму.

Такім чынам, новая пяцігодка дыктатуры выглядае на цэлую вечнасьць. Асабліва гэта адчуваеш, едучы праспэктам прэзыдэнта Машэрава і думаючы пра тое, што ён, гэты праспэкт, быў заўсёды — са сваімі козамі на ўзбочынах і вайскова-тэхнічным колерам вады ў азёрах абапал шляху. Для нашых творцаў новая пяцігодка (і колькі іх там яшчэ будзе) ня стане часам спакусы, як папярэдняя сямігодка. Беларускія творцы здольныя заваёўваць прызнаньне на міжнародных тэатральных фэстах, мастацкіх пленэрах і літаратурных кірмашах. Яны гэта даказваюць, калі спакушаюцца вечнасьцю мастацтва, а не мімалётнасьцю дыктатуры. Новы час мусіць стаць часам тварэньня і часам прызнаньня. Бо ў нацыі, як і ў чалавеку, ёсьць і добрае і благое. Калі нас пазнаюць толькі дзеля Курапатаў, Чарнобылю і Лукашэнкі — гэта значыць, пазнаюць наша благое. Хіба ж гэта і ёсьць усе беларусы і ўся Беларусь?

**Гэты даклад — з сэрыі працаў, якія прадстаўляюць думку польскіх недзяржаўных колаў на істотныя міжнародныя праблемы. Ініцыятарам гэтай справы зьяўляецца фонд імя Сьцяпана Батуры. Даклад падрыхтаваны з дапамогай Усходнеэўрапейскага Дэмакратычнага Цэнтру — IDEE.**

# Забыты

## *Беларусь у кантэксьце пашырэньня*

Беларусь — суседка трох дзяржаваў (Латвіі, Літвы, Польшчы), якія на працягу некалькіх год маюць папоўніць пашыраны Эўразьвяз. Дачыненьні з гэтай краінаю з больш як 10-мільённым жыхарствам будуць адной з важных праблемаў будучай замежнай палітыкі ЭЗ, гэтаксама як стасункі з Украінаю ці дыялёг з Расеяй па пытаньні Калінінградзкай вобласьці. Эўрапейскі Зьвяз на ўзроўні як Эўрапейскай камісіі, так і паасобных дзяржаваў, здаецца, яшчэ не да канца ўсьведамляе гэта.

Прычын адсутнасьці зацікаўленьня Беларусяй з боку ЭЗ некалькі. Па-першае, для цяперашніх краінаў Зьвязу гэтая дзяржава — "далёкі край", зь якім ніхто не мяжуе. Вялікае значэньне мае таксама пашыранае перакананьне, што Беларусь — гэта, уласна кажучы, частка Расеі, пра што нібыта сьведчаць падпісваныя абедзьвюма дзяржавамі зь сярэдзіны 90-х інтэграцыйныя дамовы. Але найважнейшай, пэўна, прычынаю ігнараваньня Беларусі застаецца адсутнасьць палітычнай канцэпцыі ў адносінах з гэтай краінай. Эўрапейскі Зьвяз дагэтуль бездапаможны ў справе недэмакратычных дзеяньняў беларускага прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі. Усё памянёнае спрычынілася да таго, што ЭЗ не палічыў за патрэбнае выпрацаваць супольную стратэгію ў дачыненьні да Беларусі, аналягічную тым, што датычаць Расеі й Украіны. Ня толькі Зьвяз стаіць перад дылемаю, што зрабіць зь Беларусяй. Цяжкасьці з рэалізацыяй палітычнага курсу адносна гэтай дзяржавы відавочныя таксама ў выпадку Латвіі, Літвы і Польшчы. Названыя краіны, аднак, аддаюць Беларусі значна болей увагі, чымся ЭЗ.

Каб зразумець сытуацыю, што пануе ў Беларусі, канечне трэба прыгледзецца да беларускага грамадзтва, а таксама да палітычнай эліты гэтай краіны. Вось чаму першая частка дакладу прысьвечаная менавіта гэтай праблематыцы. Высновы зь яе дазваляюць сфармуляваць рэкамэндацыі, што складаюць другую частку дакладу.

## I. Сацыяльная і палітычная сытуацыя ў Беларусі

### 1. ГРАМАДЗТВА

Беларускае грамадзтва вельмі неаднароднае ў ацэнках усіх важных аспэктаў публічнага жыцьця. Лініі падзелу праходзяць часам на ўзроўні пакаленьняў, нярэдка, аднак, яны адлюстроўваюць магчымасьці доступу да альтэрнатыўных крыніцаў інфармацыі, а таксама ступень адукаванасьці канкрэтнага асяродзьдзя. Актуальным застаецца таксама падзел грамадзтва на людзей паходжаньнем з усходу і з захаду краіны. Асабліва ён праяўляецца ў палітычных падыходах.

**Спосаб успрыманьня сьвету і сыстэма каштоўнасьцяў маладога пакаленьня, сьвядомасьць якога фармавалася ў пэрыяд распаду Савецкага Саюзу і стварэньня беларускай дзяржаўнасьці, істотным чынам розьніцца ад тых, якіх прытрымліваюцца людзі старэйшага і сярэдняга веку. Ужо вырасла пакаленьне, што ня ведае іншай бацькаўшчыны, акрамя незалежнай Беларусі, узьніклай у выніку распаду СССР у 1991 г. Цяжка цяпер напаткаць маладых беларусаў, якія настальгічна ўздыхаюць па няіснай краіне саветаў. Такая настальгія даволі пашыраная сярод людзей сярэдняга і старэйшага веку.** Сказанае, аднак, не азначае, што моладзь скрозь атаясамлівае сябе з апазыцыяй. Грамадзтва ў цэлым не выказвае даверу да палітычнай клясы. I гэты скептыцызм асабліва прыкметны сярод маладога пакаленьня.

Даволі высокі ўзровень адукацыі, доступ да Інтэрнэту, а таксама ўсё большая мабільнасьць беларускай моладзі, асабліва той, што жыве ў Менску, дазваляюць ёй параўноўваць этычныя падыходы і якасьць мысьленьня нацыянальнай палітычнай клясы з падыходамі і мысьленьнем эўрапейскіх палітыкаў. Маладое пакаленьне ўжо далёка адышло ад савецкага сьвету, тады як палітыкі, у тым ліку й апазыцыйныя, па-ранейшаму глыбока прывязаныя да мінуўшчыны. Нават прэзэнтуючы крайне антыкамуністычныя погляды, яны апэруюць паняткамі і ўяўленьнямі пра палітыку і грамадзтва, характэрнымі для савецкай палітычнай эліты.

Прарасейская арыентацыя Лукашэнкавага рэжыму не супярэчыць чаканьням беларускага грамадзтва. Перш за ўсё гэта вынікае зь сямейных повязяў грамадзянаў Беларусі, зь якіх звыш 30% маюць блізкіх сваякоў у Расеі. Многія беларусы атрымлівалі адукацыю ў расейскіх унівэрсытэтах або распачыналі ў Расеі сваю палітычную і прафэсійную кар'еру. Разам з расейцамі яны служылі ў Савецкай Арміі. Усе гэтыя чыньнікі фармуюць спэцыфічную сыстэму лучнасьці з грамадзянамі Расеі — лучнасьці, якой ня можа ігнараваць ніводзін палітык, што прэтэндуе на кіраўнічыя пасады ў Менску.

**Гэта, аднак, не азначае, што Лукашэнкава палітыка інтэграцыі Беларусі і Расеі мае поўную грамадзкую падтрымку. Ухваляючы цеснае эканамічнае, палітычнае і вайсковае супрацоўніцтва з Расеяй, беларусы не пагаджаюцца на абмежаваньне дзяржаўнага сувэрэнітэту сваёй краіны.** Боязь выклікае галоўным чынам пэрспэктыва службы беларускіх салдатаў у Чачэніі або ў расейскіх гарнізонах у Цэнтральнай Азіі.

Існаваньне беларускай дзяржавы мае асаблівую каштоўнасьць прыблізна для 20% жыхароў Беларусі з моцным пачуцьцём нацыянальнай сьвядомасьці. Гэтая частка грамадзтва выказваецца між іншага за як мага шырэйшае ўжываньне беларускай мовы ва ўстановах і школах, апэлюе таксама да гістарычных традыцыяў, зьвязаных зь беларускай культураю і дзяржаўнасьцю. У вачах гэтай часткі грамадзтва Лукашэнкаў рэжым зь яго захадамі на карысьць расейскай мовы і ігнараваньнем фактаў беларускай гісторыі выглядае антынародным.

Большасьць з засталых 80% грамадзтва не адмаўляе патрэбы існаваньня беларускай дзяржавы. Прыхільнае стаўленьне да беларускай дзяржаўнасьці расьце ў грамадзтве разам са зьменаю пакаленьняў. Можна дапусьціць, што з адыходам пакаленьня, якое з настальгіяй успамінае СССР, праблема стаўленьня да незалежнасьці беларускай дзяржавы сыдзе на нішто.

На працягу апошняга дзесяцігодзьдзя сотні тысячаў беларусаў пабывалі ў розных эўрапейскіх краінах. Параўноўваючы Эўропу і Расею, яны выказваюцца хутчэй за эўрапеізацыю Беларусі. Больш як палова беларускіх грамадзянаў падтрымлівае ўступленьне сваёй краіны ў Эўрапейскі Зьвяз. Праблемаю застаецца, аднак, паўсюдная нявера ў магчымасьць пераменаў, што маглі б вывесьці Беларусь на эўрапейскі шлях.

Дэмакратыя, падваліны якой будаваліся ў 1990—94 г., не была прынятая беларусамі. Да сёньняшняга дня для ладнай часткі грамадзянаў яна асацыюецца з анархіяй, інфляцыяй і пустымі паліцамі крамаў. Адсутнасьць інстытутаў самакіраваньня вядзе да таго, што адзінымі праявамі дэмакратыі ёсьць парлямэнцкія і прэзыдэнцкія выбары. Аднак большасьць людзей успрымае іх як тэхнічную працэдуру, якая заключаецца ў фармальным ухваленьні раней ужо абраных дзяржаўных уладаў. Большасьць беларусаў верыць таксама ў дзейснасьць сыстэмы, угрунтаванай на аднаасобным кіраўніцтве правадыра, увасабленьнем якога выступае Аляксандар Лукашэнка. Адно сярод інтэлігенцыі і моладзі дамінуюць імкненьні дэмакратызаваць краіну паводле эўрапейскіх стандартаў.

Лукашэнкава ўлада толькі ўзмацніла няверу ў магчымасьць дэмакратычных пераўтварэньняў. Выбарамі і рэфэрэндумамі, што сталіся палітычным фарсам для апраўданьня аўтарытарнай формы кіраваньня, былі скампрамэтаваныя асноўныя інструмэнты дэмакратыі. У паўсюдную зьяву разраслося ў штодзённым жыцьці парушэньне закону, якое вынікае зь перакананьня ў фікцыйнасьці права. Зрэшты, наіўна было б прытрымлівацца юрыдычных нормаў, да якіх самі іх стваральнікі ня ставяцца сур'ёзна.

*Беспрэцэдэнтны чорны рынак у беларускай эканоміцы — рэакцыя на празьмерны фіскалізм дзяржавы.*

Большасьць насельнікаў Беларусі жыве ў нястачы. Заробкаў, эквівалентных некальнім дзясяткам эўра, не стае для нармальнага пражыцьця, дарма што па-ранейшаму нізкімі застаюцца платы за кватэры і камунальныя паслугі. У асабліва драматычным становішчы вяскоўцы. Без ураджаю зь невялікіх дзялянак ці гародчыкаў яны б папросту ня выжылі. Большасьць гарадзкіх жыхароў, ад унівэрсытэцкіх прафэсараў да рабочых, таксама ўрабляе такія дзялянкі. Гэтая праца дае каля 30% усіх спажываных у Беларусі прадуктаў.

Значная частка беларускіх грамадзянаў валодае, аднак, грашовымі рэсурсамі, у колькі разоў вышэйшымі за афіцыйныя даходы. Гэта эфэкт спэцыфічнага ў Беларусі стаўленьня да закону. Ніводзін фінансавы аддзел няздатны вызначыць даходы тысячаў людзей, якія займаюцца прыгранічным гандлем. Паводле такіх правілаў функцыянуе ўвесь беларускі бізнэс. Супрацоўнікі прыватных фірмаў, каб пазьбегнуць празьмернага падаткаабкладаньня, афіцыйна атрымліваюць зазвычай толькі частку зробленай сумы. Іншую частку працадаўцы аддаюць ім, не пакідаючы ніякага сьледу ў дакумэнтах, якія б сьведчылі пра такую грашовую апэрацыю.

Чорны рынак у беларускай эканоміцы (пры існаваньні разгалінаванай сеткі службаў фінансавага кантролю) — гэта рэакцыя на празьмерны фіскалізм дзяржавы. У прынцыпе, усякая гаспадарчая дзейнасьць без парушэньня закону была б стратнай. У агульным парыве беларусы імкнуцца схаваць свой сапраўдны маёмасны стан. Часта людзі, дэкляруючы даходы на ўзроўні 50 эўра за месяц, могуць выявіцца ўладальнікамі новых аўтамабіляў і найсучаснай кампутарнай тэхнікі, аматарамі адпачынку на знакамітых курортах Эўропы. Дэманстрацыя заможнасьці непрыхільна ўспрымаецца суграмадзянамі. Большасьць лічыць багацьце вынікам несумленных дзеяньняў. Таму з ухвалаю прымаюцца заявы Лукашэнкі пра барацьбу з карупцыяй і арганізаванай злачыннасьцю, а асабліва — эфэктныя арышты дырэктараў вялікіх прадпрыемстваў у прысутнасьці тэлекамэраў. Сярэдні беларус жыве ў перакананьні, што яго бесьперастанна абкрадаюць — несумленныя чыноўнікі, камэрсанты і працадаўцы; пры гэтым ён ніколі не задумваецца пра ўласныя паводзіны, якія не выключаюць абыходжаньня ці парушэньня закону.

Палітычная сьвядомасьць грамадзянаў Беларусі фармуецца галоўным чынам пад уплывам расейскіх сродкаў масавай інфармацыі. Тое, што дзеецца ў сьвеце, беларусы ацэньваюць найчасьцей катэгорыямі камэнтатараў папулярных расейскіх тэлеканалаў; болей таксама цікавяцца тым, што адбываецца ў Расеі, а не ў Беларусі. Сытуацыя ва ўласнай краіне рэгулярна разглядаецца як вынік маскоўскай палітычнай гульні. Нудная беларуская тэлевізія не складае ніякай канкурэнцыі некальнім прывабным расейскім тэлеканалам. Існая ў Беларусі інфармацыйная сыстэма, у якой дамінантную ролю адыгрываюць расейскія тэлеканалы, з аднаго боку, прывучае людзей ставіцца да свайго краю як да расейскай правінцыі, з другога боку, цягам некалькіх год забясьпечвала мінімум ведаў пра асновы дэмакратыі і элемэнты рынкавай эканомікі.

Больш прарасейская, прасавецкая і пралукашэнкаўская — Усходняя Беларусь. Жыхары гэтай часткі краіны больш рашуча выказваюцца за інтэграцыю з Расеяй. У Гарадзенскай і Берасьцейскай абласьцях на захадзе краіны, дзе ладная частка грамадзянаў Беларусі жыве з прыгранічнага гандлю з Польшчаю, са страхам успрымаюцца зьвесткі пра пэрспэктывы ўвядзеньня візаў і магчымасьць абмежаваньня пасажырскага руху. У заходняй частцы краіны даступныя два каналы Публічнай польскай тэлевізіі, якія інфармуюць пра Польшчу, арыентаваную на адаптацыю заходнеэўрапейскіх стандартаў. Відавочная воля грамадзянаў Беларусі захаваць адкрытыя межы з Польшчаю як акно зь відам на ўвесь сьвет, можа, не да канца зразумелы, гледзячы з постсавецкай прасторы, але зваблівы бачнай пэрспэктывай дабрабыту і свабоды.

### 2. ПАЛІТЫКА

Беларусь — краіна з аўтарытарным рэжымам, збудаваным на нетрывалых асновах. Рэч у тым, што функцыянаваньне рэжыму зьвязанае выключна з пэрыядам кіраваньня харызматычнага прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі, які, карыстаючыся паўнамоцтвамі, што дае яму дапоўненая зь ягонай ініцыятывы канстытуцыя, прымае найважнейшыя рашэньні ў сфэры як унутранай, так і замежнай палітыкі. Зь вялікай доляю праўдападобнасьці можна прадбачыць, што магчымая зьмена на пасадзе прэзыдэнта немінуча мела б вынікам заняпад пабудаванай Лукашэнкам сыстэмы.

**Функцыянаваньне Лукашэнкавага рэжыму і эфэктыўнае з гледзішча яго інтарэсаў кіраваньне краінаю магчымыя дзякуючы існаваньню цэнтралізаванай структуры дзяржаўнай адміністрацыі, якая верна выконвае прэзыдэнцкія пастановы.** Гэтая цэнтралізаваная сыстэма ўлады ідэальна апраўдвала сябе ў часе ўсіх ранейшых выбараў і рэфэрэндумаў, эфэктыўна забясьпечваючы перамогу на іх прэзыдэнту і ягонаму палітычнаму лягеру. **Аднак падпарадкаваньне чыноўнікаў прэзыдэнту не вынікае ані зь іх асабістай адданасьці, ані з ідэйнай падтрымкі прэзыдэнцкай палітыкі. Яно — хутчэй вынік звычайнага канфармізму і боязі страціць пасады ў выпадку краху Лукашэнкавага рэжыму. Можна, такім парадкам, насьмеліцца сьцьвярджаць, што непрыхільнай да Лукашэнкі бюракратыі не хапае пакуль імпульсу для бунту супраць свайго патрона.** Пры пэўных акалічнасьцях, аднак, тое, што сёньня іграе на руку прэзыдэнту — канфармізм і безыдэйнасьць, магло б хутка стаць ахілесавай пятою ягонага рэжыму. Прынамсі частка сёньняшніх саюзьнікаў Лукашэнкі схілялася б да выхаду зь яго лягеру, каб жа ў Беларусі зьявіўся кандыдат, які карыстаўся б дастаткова вялікай падтрымкаю ў грамадзтве і меў шанцы як роўны павесьці з Лукашэнкам змаганьне за пост прэзыдэнта. Бо хоць Лукашэнка ўвесь час і лідзіруе ў сацыялягічных апытаньнях, яго папулярнасьць сыстэматычна падае, тады як грамадзкая падтрымка апазыцыйных палітыкаў хоць нязначна, але расьце. I калі б у Беларусі адбыліся свабодныя і дэмакратычныя выбары, пераабраньне Лукашэнкі ўжо не было б, як дагэтуль, наперад прадвызначана.

*Трэба настроіцца на працяглыя захады, не расчароўваючыся адсутнасьцю імгненнага эфэкту.*

Стаўленьне беларускай бюракратыі да Лукашэнкі залежыць найперш ад пазыцыі Расеі. Бюракратыі бракуе веры ў свае сілы, а таксама здольнасьці да самастойнага палітычнага дзеяньня. Мала таго, яна прытрымліваецца ўсеагульнага ў Беларусі меркаваньня, што ключ ад далейшага лёсу Лукашэнкавага рэжыму знаходзіцца ў Маскве. Вось чаму таксама нават незадаволеная Лукашэнкам частка бюракратыі чакае магчымага выразнага сыгналу з Крамля. Гэта не азначае, што беларуская бюракратыя цалкам ідэнтыфікуе свае інтарэсы з інтарэсамі Расеі. Сьведчаньнем гэтаму ёсьць хоць бы той факт, што многія былыя прэзыдэнцкія чыноўнікі (сярод іх таксама некаторыя з кандыдатаў на пасаду прэзыдэнта) дакараюць Лукашэнку за вядзеньне прарасейскай палітыкі, якая шкодзіць інтарэсам Беларусі (у прыватнасьці, за продаж расейцам па заніжаных коштах беларускай дзяржаўнай маёмасьці наўзамен за падтрымку на выбарах).

Беларускую бюракратыю жахаюць факты выцісканьня яе расейцамі з адміністрацыяў, службаў бясьпекі, кіраўнічых пасадаў у войску, а таксама перайманьня банкамі і

# сусед Эўразьвязу на Ўсход

фірмамі з Расейскай Фэдэрацыі беларускага нацыянальнага набытку. Аднак беларускія эліты паралізуе страх перад маргіналізацыяй — палітычнай і прафэсійнай, які не дазваляе ім актыўна процідзеяць напору расейцаў.

Падтрымка Масквы мае сёньня для Лукашэнкі ключавое значэньне. Цана гэтай падтрымкі — усё большая яго падлегласьць Расеі. Масква, выкарыстоўваючы няўпэўненасьць Лукашэнкі напярэдадні выбараў, стараецца прымусіць яго пайсьці на саступкі ў пытаньнях, якія лічыць для сябе істотнымі. Найбольш яскравым прыкладам гэтага сталася падпісаньне пры канцы мінулага году пагадненьня пра ўвядзеньне супольнай валюты і спыненьне крытыкі расейскага патрабаваньня стварыць адзіны эмісійны цэнтар у Маскве. На практыцы гэта пазначае страту Беларусяй аднаго з атрыбутаў сувэрэнітэту.

***Дэмакратычныя асяродкі ніколі не пагодзяцца з паглынаньнем краіны мацнейшым суседам. Гэта асноўны фактар, які стрымлівае імпэрскія пляны Масквы.***

**Маскоўская падтрымка мае для Лукашэнкі асаблівае значэньне таксама й таму, што дасюль яна гарантавала яму дастатковае замежнае прыкрыцьцё. Расея — адна зь нямногіх дзяржаваў, якая цалкам прызнае Лукашэнкаў рэжым і, выконваючы ролю ягонага заступніка і „адваката" на міжнароднай арэне, спрычыняецца такім чынам да ягонага захаваньня. Ранейшая стратэгія заходніх дзяржаваў і міжнародных арганізацыяў, угрунтаваная на дапушчэньні, што лібэралізацыю Лукашэнкавага рэжыму ўдасца „абладзіць" пры пасярэдніцтве Масквы, зазнала фіяска. Больш за тое, гэтая стратэгія ўмацоўвае ня толькі Расею, але й беларускую грамадзкую думку ў перакананьні, што лёс Беларусі па-ранейшаму вырашаецца найперш у Маскве.** Ізаляцыя Захадам беларускіх уладаў паглыбляе комплекс беларускай бюракратыі перад „старэйшым братам" з Усходу і паралізуе патэнцыял хоць якіх яе дзеяньняў супраць Лукашэнкі. Тым часам Расея, насуперак спадзяваньням заходніх дзяржаваў, не выстаўляе прэзыдэнту Беларусі ніякіх патрабаваньняў лібэралізацыі ягонага рэжыму, скажам, правядзеньня свабодных і дэмакратычных выбараў. Вельмі праўдападобна, што Крэмль, рэалізуючы сваю палітыку інкарпарацыі Беларусі, будзе схільны прызнаць перамогу Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах, нават калі яны пройдуць у варунках, якія не забясьпечваюць электарату аўтэнтычнай свабоды выбару або калі іх вынікі будуць папросту сфальсыфікаваныя. Лукашэнка ж у сваю чаргу, адчуваючы своеасаблівую згоду Масквы на бясправўныя дзеяньні і імкнучыся любой цаною захаваць уладу ў краіне, не рызыкне праводзіць выбары згодна з прынятымі ў дэмакратычных дзяржавах стандартамі. Пра гэта сьведчыць увесь ранейшы ход выбарчай кампаніі.

Беларуская апазыцыя, выкараненая зь дзяржаўных структураў і адсунутая на пэрыфэрыю палітычнага жыцьця пасьля канстытуцыйнага рэфэрэндуму 1996 г., ня мае фактычна ніякіх магчымасьцяў узьдзеяньня на рэжым Лукашэнкі. Нават тыя нешматлікія саступкі, на якія беларускія ўлады пайшлі ў дачыненьні да апазыцыі, былі перадусім вынікам міжнароднага ціску. Дзяржаўная манаполія на электронныя СМІ абмяжоўвае поле актыўнасьці апазыцыйных асяродкаў. Хоць гэтыя асяродкі карыстаюцца невялікай у цэлым грамадзкай падтрымкаю, менавіта дзякуючы іх актыўнасьці міжнародная супольнасьць паінфармаваная пра выпадкі парушэньня законаў і абмежаваньня грамадзянскіх свабодаў у Беларусі. **Дарма што дэмакратычныя асяродкі скрозь ацэньваюцца як слабыя, акурат яны ўяўляюць самую актыўную частку беларускага грамадзтва. Яны ніколі не пагодзяцца з фактычным паглынаньнем іх краіны мацнейшым суседам. Гэтая акалічнасьць — асноўны, відаць, фактар, які часткова стрымлівае рэалізацыю імпэрскіх плянаў Масквы ў Беларусі.**

Сур'ёзным рэзэрвам апазыцыі — і гэта вылучае Беларусь на прасторах СНД — ёсьць шырока разгалінаваная сетка няўрадавых арганізацыяў, у якіх знаходзіць прытулак і шмат хто з апазыцыйных палітыкаў. Наступствамі кіраваньня беларускіх уладаў, заклапочаных захаваньнем свайго манапольнага становішча ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця, сталася апазыцыйнасьць і палітызацыя беларускага „трэцяга сэктару". У адрозьненьне ад апазыцыйных палітычных партыяў, актыўнасьць якіх канцэнтруецца перш за ўсё ў сталічным Менску, няўрадавыя арганізацыі ахопліваюць сваёй чыннасьцю таксама й правінцыю. Яны спрыяюць будаваньню падвалінаў незалежнай ад дзяржаўных структураў грамадзянскай супольнасьці. Гэта дазваляе меркаваць, што працэсы фармаваньня беларускага грамадзтва і нацыі будуць ісьці далей, нягледзячы на панаваньне ў Беларусі аўтарытарнага і індыфэрэнтнага ў нацыянальным пляне рэжыму.

Вартая адзначэньня і стаўленьне да Эўразьвязу, распаўсюджанае сярод апазыцыйнай палітычнай эліты і нават часткі людзей цяперашняга апарату ўлады. ЭЗ ёсьць для іх сымбалем дабрабыту. Важнай таксама зьяўляецца ацэнка краінаў-сяброў Эўразьвязу як дзяржаваў, у якіх выконваюцца законы.

## II. Рэкамэндацыі

***Недапушчальна разглядаць Беларусь як частку расейскай сфэры ўплыву.***

Эўрапейскі Зьвяз і краіны-кандыдаты на ўступленьне ў яго павінны ўсьведамляць, што іх дзеяньні дачынна Беларусі могуць не прынесьці ў кароткім часе меркаваных вынікаў. Трэба хутчэй настроіцца на працяглыя захады, не расчароўваючыся адсутнасьцю імгненнага пераканаўчага эфэкту. Нельга, разам з тым, выключыць магчымасьць раптоўных палітычных пераменаў у Беларусі, якія зрабілі б рэальным усталяваньне Эўрапейскім Зьвязам паўнацэнных кантактаў з гэтай краінаю. Вось чаму належыць ужо цяпер выпрацаваць узгодненую палітыку ў дачыненьні да Беларусі, каб ня быць засьпетымі зьнянацку магчымым разьвіцьцём падзеяў.

### 1. НОВАЯ ПАЛІТЫКА ЭЗ АДНОСНА БЕЛАРУСІ

З боку ЭЗ вельмі важна было б разглядаць Беларусь як суб'ект у міжнароднай палітыцы Зьвязу. Дачыненьні зь Беларусяй ня могуць весьціся ў кантэксьце сувязяў ЭЗ з Расеяй. Беларусь павінна стаць часткаю новай усходняй палітыкі ЭЗ, што мусіць зважаць на этнічную разнастайнасьць прасторы, зь якой Саюз будзе непасрэдна межаваць пасьля пашырэньня на ўсход. Недапушчальна разглядаць Беларусь як частку расейскай сфэры ўплыву, як гэта характэрна для некаторых краінаў ЭЗ. (Прыкладам тут — супольны аналіз дэпартамэнтаў плянаваньня міністэрстваў замежных справаў Нямеччыны і Францыі. У ім адкрыта сказана пра Маскву як натуральны цэнтар цяжару для краінаў СНД і выключаная магчымасьць уваходжаньня ў будучыні ў склад ЭЗ між іншых краін і Беларусі.)

Зыходзячы з палажэньня пра суб'ектнасьць Беларусі ў замежнай палітыцы Саюзу, Брусэль павінен уплываць на сытуацыю ў гэтай краіне не праз Маскву, а праз прамыя дыпляматычныя захады ў Менску. У ведзеных з Расеяй размовах ЭЗ мае выразна падкрэсьліваць, што Маскве ня варта падтрымліваць недэмакратычны рэжым Лукашэнкі. Падтрымка расейскімі ўладамі гэтага рэжыму зьяўляецца для разьвіцьця дачыненьняў ЭЗ—Расея такой самай праблемаю, якой нядаўна было пытаньне расейскай падтрымкі рэжыму Слабадана Мілошавіча.

ЭЗ павінен афіцыйна заявіць, што ён не выключае ў будучыні ўступленьня Беларусі ў Зьвяз. Адным з галоўных палажэньняў памянёнай новай усходняй палітыкі ЭЗ, у якой бы знайшлося месца й для Беларусі, было б падтрыманьне праэўрапейскіх дзеяньняў уладаў гэтай краіны. Умоваю залучэньня Беларусі ў будучыні ў лік кандыдатаў была б воля на ўваходжаньне ў склад ЭЗ, выражаная дэмакратычна абранымі ўладамі дзяржавы, а таксама прызнаньне імі абавязковай патрэбы адпаведнасьці Беларусі капэнгагенскім крытэрам. Робячы выснову з ранейшай практыкі, цяжка сабе ўявіць, каб гэтую ўмову мог выканаць Лукашэнка. Такім чынам, пастулят скіраваны хутчэй да наступных кіраўнікоў Беларусі.

Паказ Саюзам эўрапейскай пэрспэктывы для Беларусі процідзеяў бы стэрэатыпу „нас ніхто ў Эўропе не чакае", пашыранаму ў гэтай краіне, у тым ліку і ў асяродзьдзі палітычнай эліты.

Ужо цяпер Саюз павінен падрыхтаваць праграму канкрэтнай дапамогі (напр., ільготы пры доступе на рынак ЭЗ беларускіх тавараў) на выпадак пазытыўных пераменаў у Беларусі. У пэўным сэнсе гэта было б паўтарэньнем сэрбскага варыянту.

У асяродзьдзях экспэртаў у краінах цяперашняга ЭЗ можна сустрэцца з асьцярогаю, што праэўрапейскія захады ў дачыненьні да Беларусі будуць трактавацца Масквою як палітыка антырасейская. Большасьць расейскай палітычнай эліты ўспрымае Беларусь або як частку Расеі, або як краіну, натуральным чынам прыналежную расейскай сфэры ўплываў. Такі падыход з пункту погляду ЭЗ ня йдзе на карысьць, бо гэта праява імпэрскага мысьленьня расейскай эліты, зважаючы на якое цяжка сабе ўявіць добрыя сувязі ЭЗ і Расеі. Шанцам на прынамсі частковую зьмену ранейшага непазытыўнага спосабу мысьленьня расейскай палітычнай эліты было б перакананьне яе ў тым, што толькі цеснае супрацоўніцтва з Саюзам такіх краін, як Беларусь, а таксама самой Расеі можа прывесьці да паляпшэньня эканамічнай сытуацыі на постсавецкай прасторы.

***Разгалінаваная сетка няўрадавых арганізацыяў вылучае Беларусь на прасторах СНД.***

### 2. ПРОЦІДЗЕЯНЬНЕ ІЗАЛЯЦЫІ

Вялізнае значэньне для фармаваньня ў Беларусі грамадзкіх падыходаў, пазытыўных з гледзішча ЭЗ, мае магчымасьць свабодных паездак жыхароў у краіны Эўразьвязу. Вось чаму трэба максымальна спрасьціць парадак выезду грамадзянаў Беларусі ў ЭЗ у рамках *acquis Schengen*. Гэта будзе важна асабліва пасля ўваходжаньня ў Эўразьвяз беспасярэдніх суседзяў Беларусі — Латвіі, Літвы і Польшчы. У будучыні, як мага бліжэйшай, ЭЗ павінен разгледзець магчымасьць выключэньня Беларусі з чорнага сьпісу краінаў, грамадзянам якіх патрэбныя візы для ўезду на тэрыторыю Зьвязу.

Кантакты з суседзямі, што стануць чальцамі ЭЗ, для беларусаў асабліва важныя, улічваючы магчымасьці выездаў у гэтыя краіны вялікай колькасьці грамадзянаў Беларусі. Паездкі ў Латвію, Літву і Польшчу дапамагаюць беларусам на свае вочы пераканацца ў карысьці, якая вынікае з эўрапейскай інтэграцыі.

Каб прадухіліць ізаляцыю Беларусі, варта інвэставаць у пабудову праэўрапейскай эліты. Асабліва важныя стыпэндыяльныя праграмы для моладзі. Беручы пад увагу моўную блізкасьць, значную частку гэтых праграм можна было б рэалізаваць у Польшчы. Навучаньне маладых людзей паблізу Беларусі дае большую гарантыю, што ладная іх частка ня страціць кантактаў з бацькаўшчынаю і туды вернецца. Пры выездах на большую адлегласьць многія людзі хочуць застацца ў аддаленых ад Беларусі краінах, адначасна трацячы кантакт з бацькаўшчынаю.

Веды пра тое, што такое ЭЗ, у Беларусі далёкія ад здавальняючых. Таму належала б правесьці інфармацыйную акцыю пра Эўразьвяз. Варта было б, напрыклад, зарганізаваць эўрапейскія дні ў Менску і ў іншых гарадах Беларусі. Больш актыўную ролю ў папулярызацыі ЭЗ у Беларусі маглі б адыграць пасольствы дзяржаваў-чальцоў Зьвязу.

ЭЗ не павінен пазьбягаць дыялёгу зь Беларусяй на ніжэйшым узроўні. Кантакты зь беларускай бюракратыяй, якая сёньня падтрымлівае Лукашэнкаў рэжым, але ў будучыні можа стаць на бок іншых прэтэндэнтаў на ўладу, могуць мець ключавое значэньне для будучых стасункаў Эўразьвязу і Беларусі. Многія ж ініцыятывы, ухваленыя на найвышэйшых узроўнях, могуць, як вядома, эфэктыўна тармазіцца ўсюдыіснай мясцовай бюракратыяй.

### 3. УЗАЕМАДЗЕЯНЬНЕ ЗЬ НЯЎРАДАВЫМ СЭКТАРАМ І ПРАФСАЮЗАМІ

Ва ўмовах абмежаваных кантактаў зь Беларусяй на дзяржаўным узроўні асаблівае месца павінна заняць узаемадзеяньне зь беларускім няўрадавым сэктарам і прафсаюзамі. Кантакты паміж няўрадавымі арганізацыямі Беларусі і аналягічнымі структурамі зь дзяржаваў ЭЗ і краін-кандыдатаў на ўступленьне ў Зьвяз дазволілі б пераламаць нарастаючы псыхоз ізаляцыі і варожасьці да чужых, на якім грунтуецца цяперашні недэмакратычны рэжым.

Ніякія прадпісаньні ня могуць прыпыніць росту ў Беларусі грамадзкай актыўнасьці. Абмежавальныя захады ўладаў у дачыненьні да праяваў грамадзкай актыўнасьці, а таксама адсутнасьць падтрымкі для такога роду дзейнасьці могуць стрымаць непасрэднае супрацоўніцтва дзяржаваў ЭЗ зь беларускімі арганізацыямі. Усё гэта, аднак, ня можа перашкодзіць грамадзянам краінаў Зьвязу і прадстаўляным імі няўрадавым арганізацыям ажыцьцяўляць неадкладную гуманітарную дапамогу і шырыць веды з розных галінаў жыцьця.

Пабудова грамадзянскай супольнасьці, якая была б не прадметам маніпуляцыяў улады, а суб'ектам унутранай палітыкі, — гэта адзіны спосаб зьмяніць грамадзкую, палітычную і эканамічную сытуацыю ў Беларусі і забясьпечыць далейшае разьвіцьцё гэтай краіны. Зразумела, патрэбная пры гэтым перадача досьведу і ведаў, важных для будаваньня грамадзянскай супольнасьці. Пры рэалізацыі праектаў, скіраваных на Беларусь, патрэбнае таксама блізкае супрацоўніцтва няўрадавых арганізацыяў краін ЭЗ з аналягічнымі структурамі зь дзяржаваў-кандыдатаў на ўступленьне ў Зьвяз, найперш зь Літвы, Латвіі і Польшчы. У выпадку праектаў няўрадавых арганізацыяў краінаў ЭЗ з удзелам беларускіх партнэраў варта было б забясьпечыць лягчэйшы доступ да грошай ЭЗ.

Рост актыўнасьці мясцовых асяродкаў можа стымуляваць працэс стварэньня грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Вось чаму рэалізацыя многіх міжнародных лякальных праектаў магла б адыграць значную ролю ў фармаваньні грамадзкіх падыходаў у Беларусі, стрымліваньні няўхільнага зьбядненьня беларускага насельніцтва і пераадоленьні ізаляцыі, якая спараджае ксэнафобію.

Яшчэ адзін важны пастулят — разьвіцьцё ЭЗ супрацоўніцтва прафсаюзаў краін ЭЗ і краін-кандыдатаў на ўступленьне ў Зьвяз з прадстаўнікамі розных прафсаюзных арганізацыяў Беларусі. Для папулярызацыі дэмакратычных падыходаў у беларускім грамадзтве велізарнае значэньне мае выхад на рабочае асяродзьдзе.

### 4. ПАДТРЫМКА НЕЗАЛЕЖНЫХ СМІ

Асноваю функцыянаваньня недэмакратычнага рэжыму ў Беларусі застаецца ізаляцыя краіны і абмежаваньне доступу грамадзянаў да інфармацыі. Тэлевізійныя станцыі, акрамя расейскіх, знаходзяцца пад кантролем рэжыму. Адсутнічаюць айчынныя незалежныя электронныя СМІ. Існаваньне ў Беларусі некалькіх камэрцыйных FM-радыёстанцыяў не дае доступу да нецэнзураванай інфармацыі.

Таму якраз асаблівую ролю адыгрывае беларуская незалежная прэса. Дасьледаваньні паказваюць, што адзін асобнік незалежнай газэты чытае ў сярэднім ад 5 да 10 чалавек. Вось чаму, хаця супольны наклад незалежнай прэсы складае каля 250 тысяч асобнікаў, рэальна яна мае значна шырэйшае поле ўзьдзеяньня. Паўмільённы наклад галоўнай афіцыйнай газэты "Советская Белоруссия" пры дзясятках іншых афіцыйных выданьняў сьведчыць, аднак, пра манапалізацыю СМІ рэжымам. Таму падтрымка свабоднай прэсы як адзінага сродку, які гарантуе грамадзтву доступ да альтэрнатыўнай інфармацыі, канечне патрэбная для пабудовы грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі.

**У сэрыі справаздачаў „Пра будучыню Эўропы" раней выйшлі даклады "Перамагчы варожасьць: Калінінград як анкляў Расеі ў межах Эўразьвязу" (http://www.batory.org.pl/ftp/program/europejski/raport1/rtf) і "Адчыненыя дзьверы. Усходняя мяжа пашыранага Эўразьвязу", http://www.batory.org.pl/ftp/program/europejski/Raport_Schengen_pl.rtf, "Праэўрапейскія атлянтысты. Польшча і іншыя краіны Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы пасьля ўваходу ў Эўразьвяз", http://www.batory.org.pl/ftp/program/europejski/raport3.rtf**

**Падрыхтавалі Ганна Навумчук, Яўген Мірановіч, Павал Казанэцкі, Гжэгаж Грамадзкі**

**Агляд музычнага жыцьця**



Зьлева направа: Аляксандар Анісімаў, Віктар Скарабагатаў, Галіна Гарэлава

# Сэзонныя заўвагі

**Раней адкрыцьцё сэзону ў Філармоніі традыцыйна прымяркоўвалася да 1 кастрычніка — Міжнароднага дня музыкі. Опэра таксама адчыняла свае дзьверы пры канцы верасьня. Сёлета адкрыцьцё сэзону адбывалася напярэдадні выбараў, таму людзі слухалі музыку з асаблівым хваляваньнем і асаблівым пачуцьцём еднасьці, якое не патрабуе словаў.**

Опэрны сэзон распачаўся 6 верасьня спэктаклем "Князь Ігар" з удзелам Тацяны Кнутовіч і Васіля Кавальчука. Да таго ж, гэта быў бэнэфіс народнага артыста СССР Аркадзя Саўчанкі.

А чарговая прэзэнтацыя "Легендаў Вялікага Княства", што адбылася 7 верасьня ў Доме вэтэранаў, ператварылася ў сапраўдны перадвыбарчы мітынг і аднačасова — у сьвяткаваньне 487-х угодкаў перамогі пад Воршай. Галоўным колерам гэтай прэзэнтацыі быў, вядома ж, памаранчавы, галоўным сымбалем — узыходзячае сонца, галоўнай гераіняй — Арына Вячорка. Акторы тэатру Мазынскага, апранутыя ў рыцарскія строі, чыталі патрыятычныя вершы і ўрыўкі з Статуту ВКЛ. Заля была поўная. Аднак якасьць музыкі крыху расчаравала. Жывое гучаньне па-здрадніцку выявіла хібы, якіх на дыску не чуваць. Суцешыў "Стары Ольса" і дасканалае мужчынскае трыё — Андрэй Латушкін, Раман Ліхашапка ды Павал Сілівончык.

Сапраўдную ж беларускую аўтэнтыку можна было пачуць на юбілейным канцэрце "Ліцьвінаў", што адбыўся 5 верасьня ў Палацы культуры Менскага трактарнага заводу. На жаль, заля была напалову пустая. Варта прыгадаць, што за дзесяць год свайго існаваньня "Ліцьвіны" далі толькі чатыры канцэрты ў беларускай сталіцы: у сакавіку 91-га яны выступілі ў Нацыянальнай бібліятэцы, наступны канцэрт адбыўся ў 96-м, потым у 2000-м... Каб паслухаць "Ліцьвінаў", трэба ехаць у Польшчу.

А паслухаць іх варта. Амаль усе песьні ў вялізным рэпэртуары "Ліцьвінаў" (тры з паловай гадзіны чыстага гучаньня!) узятыя проста з народнай стыхіі ды засьпяваныя з ідэальным майстэрствам ды пачуцьцём стылю. Перад слухачом разгортваецца дзівосная панарама беларускіх песенных скарбаў — песьні і мэлёдыі Хойніцкага, Лідзкага, Слуцкага, Вялейскага, Маладэчанскага, Пастаўскага, Смургонскага раёнаў, сабраныя пераважна Ўладзімерам Бярберавым ды Натальляй Матыліцкай. Інструмэнты ў "Ліцьвінаў" таксама аўтэнтычныя — гармонік зь Вялейшчыны, цымбалы з Маладачаншчыны, дудка з-пад Лунінца...

Тымчасам у Філармоніі гучалі зусім іншыя песьні. 7 верасьня новапрызначаны мастацкі кіраўнік ды галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага сымфанічнага аркестру Беларусі Аляксандар Анісімаў прэзэнтаваў вельмі амбітную канцэртную праграму, якая ўключала ў сябе Сорак першую сымфонію В.А.Моцарта ("Юпітэр"), Клясычную сымфонію С.Пракоф'ева, Другую сюіту з балету "Дафніс і Хлоя" М.Равэля, а таксама "Траецкія фрэскі" беларускай кампазытаркі Г.Гарэлавай. Усе нумары былі старанна падрыхтаваныя, хоць, прыкладам, Моцарт быў занадта "слушны", бюргерскі, урачыста-цяжкаважны, бяз кроплі іроніі й пачуцьцёвасьці. А ў выкананьні пракоф'еўскай сымфоніі не ставала імклівасьці — можа, зь віны музыкаў, якім сапраўдны тэмп быў не па зубах. Затое пацешылі маладыя трубачы, студэнты Акадэміі музыкі й ляўрэаты міжнародных конкурсаў Зьміцер Макарэвіч і Яўген Лятэ, якія выконвалі сола ў творы Гарэлавай.

Маэстра Анісімава прызначылі на пасаду галоўнага дырыжора нашага Сымфанічнага толькі пасьля таго, як ён афіцыйна абвясьціў аб скасаваньні свайго кантракту з Нацыянальным сымфанічным аркестрам Ірляндыі. Што праўда, на сайце Анісімава (http://www.alexanderanissimov.com), няма анігадкі пра "развод" з ірляндцамі. Затое ёсьць каляндар на наступны сэзон. У ім значацца ўсяго тры выступы зь Дзяржаўным акадэмічным сымфанічным аркестрам Беларусі: 7 верасьня, 23 лістапада (сучасная музыка для бубнаў, творы Бартака) і 21 сьнежня (Глазуноў, Бэтховэн). У першай палове 2002 г. аніякіх канцэртаў Анісімава ў Менску ўвогуле не прадбачыцца. У Беларускай опэры ён зьбіраўся дырыжыраваць усяго 4 спэктаклі: 6 верасьня — "Князь Ігар", 15 верасьня — "Лэдзі Макбэт Мцэнскага павету", 23 лістапада — "Трубадур", 13 лютага 2002 г. — "Травіята". Аніводнай новай пастаноўкі! Варта параўнаць гэты графік з абавязкамі Джымі Лявайна, галоўнага дырыжора нью-ёрскай "Мэтраполітан-опэра" і Мюнхенскага філярманічнага аркестру, які штогод кіруе 90 спэктаклямі ў Нью-Ёрку і 25 канцэртамі ў Мюнхене... Што зробіш, калі беларуская дзяржава ня можа плаціць сваім дырыжорам?

**Юлія Андрэева**

**Удакладненьне**

## Верш Трафімчука, а не Псэўдоніма

**У "НН" №36 ад 3 жніўня, у рубрыцы "Нацыя паэтаў" быў надрукаваны верш "Мала вар'яцтва ў нашай паэзіі" пад памылкова пазначаным аўтарствам Віталя Псэўдоніма. Насамрэч верш напісаў Анатоль Трафімчук. Рэдакцыя просіць прабачэньня ў чытачоў і ў абодвух паэтаў.**

# Немаўляцкі рок

**Мінулымі выходнымі ў Маладэчне прайшоў фэстываль маладых гуртоў "Рок-немаўля", арганізаваны мясцовай Радай ТБМ. Год таму гэты фэст быў прысьвечаны дзецям-інвалідам, і ўсе грошы за квіткі былі ахвяраваныя ім. Сёлета ён праходзіў пад знакам вожыка-сонейка і прысьвячаўся выбарам.**

Фэст ладзіўся ў Палацы культуры чыгуначнікаў пры невялікай колькасьці гледачоў. Астатняя моладзь была на футболе (на мясцовым стадыёне гуляў "Мэталюрг" узору 1991 г. і сёньняшняя гарадзкая каманда).

Наўрад ці арганізатары ладзілі нейкі жорсткі адбор гуртоў, таму пачуць давялося рознае: "мэталісты" з *Dead Marsh* гралі бяз бас-гітары (што праўда, на такім гуку гэта заўважыць было цяжкавата), а менская каманда з сымбалічнай назвай "Агонія" ня ведала, куды ўвогуле падключыць гітару.

Чым цяжэйшая была музыка, тым лепш прымалі гледачы. (Гурт "Буркіна-Фасо" зайграў нават уцяжараны кавэр "Калыханкі", што-праўда, без вакалу Я.Паплаўскай.) Тэкстам даўно не надаюць вялікай увагі, і, сьпявай ты хоць "Авэ Марыя" — на гэта будзе ўсім напляваць. Лепш дайце драйву!

Таму маладыя гурты былі падобныя ў сваім імкненьні "парваць" залю музыкай... Калі б ня госьці — "Новае Неба" *Postscriptum* ды *Ulis* — фэстываль "загнуўся" б. Кася Камоцкая выканала старыя гіты, якія маладэчанцы слухалі з задавальненьнем. "P.S." адыграў шэсьць песьняў. На песьні "Вольныя танцы" ў Марголіна "адмовіла" гітара, але дзе там хто заўважыць. Слава Корань доўга марудзіўся з гукам, але "авалодаць" такім апаратам было немагчыма, таму добрыя песьні *Ulis*'у "крыху рэзалі вуха. Закрылі фэст мясцовыя прафэсіяналы *Green Snake* "цяжкім і вясёлым рок-н-ролам".

Тым усе і скончылася. Засталося колькі зламаных крэслаў, пустыя бутэлькі ды налепкі "Выбірай" па ўсім Маладэчне.

**Сяргей Будкін**

# Случай у "Навінках"

**Учора а 18-й у рэдакцыі газэты "Навінкі" адбылася неафіцыйная прэзэнтацыя зьнятага навінкаўцамі ж фільму "Случай з пацаном".**

Больш за тыдзень таму контракультурнікі спрабавалі арганізаваць ці не пампэзную прэзэнтацыю ў рэстарацыі "Alcatraz", дзе паказалі замест гатовага прадукту шэраг абы-як змантаваных фрагмэнтаў працягласьцю ў 15 хвілінаў, што пры няякасным гуку выглядала жудасна: маскоўскія спэцы, якія здымалі стужку на замову "Навінак", да прызначанага дня не пасьпелі зрабіць канчатковы варыянт.

Гэтым жа разам "Случай" паказалі цалкам. Сюжэт 50-хвіліннай стужкі наступны: звычайны менскі гопнік Юра, які цягам цэлага фільму задарма рэклямуе піва "Аліварыя", вырашае знайсьці сабе працу. Сустракаецца са сваім былым аднаклясьнікам, што працуе на спэцслужбы, а пасьля выпадкова трапляе на офіс маладзёвай апазыцыйнай арганізацыі "Бобр", скрадае там мабільнік і... Карацей, заўсёдны "навінкаўскі" сьцёб у кіношным фармаце. Фільм аздоблены мульцяшкамі, мова герояў — расейская, "баброўская" — у перакладзе.

Мяркуецца, што відэа будзе растыражаванае тысячным накладам, касэта каштавацьме пад 3000 рублёў.

Акрамя таго, "Навінкі" рыхтуюцца да выданьня новага дадатку — беларускамоўнага дайджэсту французскага аналітычнага Le Monde Diplomatique. Дадатак будзе чаргавацца з "Чорнымі Навінкамі" і звацца будзе, мабыць, "Навінкамі дыпляматычнымі".

**А.Уцюговіч**

**Дзе варта быць**

## Рыцарскі фэст

**15 верасьня ў Заслаўі адбудзецца рыцарскі фэст і інсцэніроўка штурму замку.** Патрапіць у Заслаўе зь Менску можна электрычкай (маладэчанскі кірунак, да прыпынку "Беларусь").

## "Белая вежа"

**11—15 верасьня ў Берасьці й Камянцы пройдзе тэатральны фэстываль "Белая вежа".** Апроч нашых, выступяць калектывы з Украіны, Расеі, Славаччыны, Румыніі, Італіі, ЗША, Турцыі, Японіі ды іншых краінаў. Спэктаклі будуць драматычныя й лялечныя, клясычныя й авангардовыя. Месцы фэсту — залі Берасьцейскага лялечнага тэатру, тэатру драмы й музыкі ды пляцоўка пад Белай вежай.

**Дзяніс Носаў**



## Наша Ніва 90 год таму

**М.Ільля, Вялейскі п.** Мястэчка наша распаложана ў досі прыгожым лясістым месцы над ракой Ільёй (прыток Вяльлі). Мае яно некалькі крамаў, шынкоў, адзін касьцёл, дзьве царквы і адну... прыхадзкую школу. Пагаварывалі гады са два таму аб гарадзкім вучылішчы, але на гутарках толькі і скончылася. Багатым яно непатрэбна, бедныя ня маюць за што будаваць, а ёсьць такія, што ўжо збудаваныя школы параскідалі б! А гарадзкое вучылішча страшэньне патрэбна: бо і мястэчка вялікае, і непадалёку гута "Залесьсе", дзе ёсьць шмат гутніцкіх дзяцей, каторых бацькі жаляцца, што хацелі б вучыць, ды ня маюць дзе. Бліжэйшае падобнае вучылішча ёсьць у Вялейцы за міль 5—6 ад Ільі і гуты. Таксама ў другім мястэчку, даволі вялікім і гандлёвым, Даўгінаве, гарадзкога вучылішча як няма, так няма! А час вялікі зьвярнуць увагу, каму належыць, на тутэйшы школьны голад!

**З.**

**"Наша Ніва", 25 жніўня 1911 г., №34.**

**водгукі**

# Біскуп Матулевіч і беларускі адраджэнскі рух



Валеры Пазьнякоў у сваёй рэцэнзіі на маю працу "Друя і Грэка-Каталіцкая Царква на Беларусі" ("НН" ад 6 жніўня) асьпрэчвае маё цьвярджаньне, што Юры Матулевіч упершыню сутыкнуўся зь беларускім адраджэнскім рухам у канцы 1918 г., г.зн. пасьля таго, як заняў Віленскі біскупскі пасад.

Пытаньне гэтае ня мае сутнага значэньня для галоўнай тэмы маёй працы, але я ўдзячны сп.Пазьнякову за нагоду прыгледзецца больш дэталёва да поглядаў Матулевіча на нацыянальныя і палітычныя праблемы. Вось што ён пісаў у сваім дзёньніку, будучы ў Рыме 24 лістапада 1911 г.: *"На магіле сьв.Апостала (Пятра — **А.Н.**) я склаў прысягу, што буду старацца з усёй моцы..., каб ні я, ані сябры нашага Закону (Марыянаў — **А.Н.**), ані сам Закон не служыў ніякім пабочным мэтам, палітычным, нацыянальным ці іншым, а толькі Богу, Царкве і збаўленьню душаў..."*.

14 гадоў пазьней, як Віленскі біскуп, 5 ліпеня 1925 г. ён пісаў Лаўрэну Ляуры, нунцыю ў Польшчы: *"Ня справа Каталіцкай Царквы... устрымліваць ці прыціскаць рухі нацыянальныя ці народныя, але хутчэй асьвячаць іх і, наколькі магчыма, накіроўваць для збаўленьня душаў"*.

Такім чынам, для Матулевіча пастырскія меркаваньні — слава Божая, дабро Царквы і збаўленьне душаў - былі найвышэйшым законам. Нацыянальныя і палітычныя пытаньні яго цікавілі толькі ў дачыненьні да пастырскай дзейнасьці.

Нацыянальна-сьвядомы літовец, Матулевіч правёў большую частку жыцьця ў Польшчы (Кельцы, Варшава), дзе цешыўся ўсіхнай павагаю як пабожны і ахвярны сьвятар, адукаваны і сьціплы чалавек, дасьведчаны духоўны кіраўнік. Ягонае літоўскае паходжаньне ў нацыянальна-аднародным польскім асяродзьдзі не было перашкодаю.

У Вільні Матулевіч апынуўся ў цяжкім становішчы. Ён знайшоў там напружаную палітычную сытуацыю, выкліканую супрацьстаяньнем літоўскіх і польскіх нацыянальных інтарэсаў. У сваёй прамове 8 сьнежня 1918 г. пры ўступленьні на біскупскі пасад ён сказаў: *"Сьледам за Хрыстом буду старацца абняць усіх вас, быць усім для ўсіх... Жадаю быць для вас толькі бацькам і пастырам, пераймальнікам Хрыста. Полем маёй дзейнасьці ёсьць Валадарства Хрыстовае..."*. На практыцы выканаць гэтыя прыгожыя намеры было вельмі цяжка. Літоўцы, напэўна, чакалі ад "свайго" біскупа больш, чым ён мог ім даць. Палякі, з свайго боку, ставіліся да Матулевіча з падазрэньнем і ўспрымалі кожную ягоную, нават найменшую спробу задаволіць справядлівыя дамаганьні

# Кім Хадзееў



**Дарагія суайчыньнікі! 5 верасьня 2001 г. на 72-м годзе жыцьця ад раку лёгкага памёр беларускі мысьляр, філёзаф, культуроляг, пісьменьнік Кім Хадзееў.**

І *пэдагог* — вось гэта і было галоўным. Пры тым, што ён толькі аднойчы прачытаў курс лекцыяў на факультэце, якім кіраваў яго сябар рэжысэр Уладзімер Рудаў. Прачытаў дзеля прыязьні. Каб гэта зрабіць, ён дзеля прыязьні адпрацаваў у бібліятэках больш за год. А было яму тады 67.

Кім пражыў надзіва годнае жыцьцё. Упершыню ён сеў у турму 19-гадовым студэнтам БДУ, у 1948 г. — за адкрыты заклік да забойства Сталіна з унівэрсытэцкае трыбуны. Потым — у 1962 г., у адлігу: яго ненавідзелі і баяліся ўлады ўсіх калібраў і масьцей. Сам ён не баяўся нікога і нічога, акрамя сьлепаты і страты сяброў — у асноўным моладзі, якую ўмеў любіць і разумець. А любіць жа таксама трэба ўмець. Некалі яго спыталі: што такое любоў? І ён адказаў: увага.

Зь сярэдзіны 50-х Кім быў цэнтрам інтэлектуальнага жыцьця Менску. Яго ведалі і паважалі паэты, пісьменьнікі, мастакі, скульптары, шмат хто зь іх учашчаў да яго па рады. Кімавы ідэі, заўвагі, нават сны расьцярушаныя па мностве іхных спэктакляў і кніг. Зь ягонага таленту напоўніцу карысталіся і вучоныя мужы: ня маючы магчымасьці зрабіць кар'еру, Кім зарабляў на жыцьцё пісаньнем дысэртацыяў. За сваё жыцьцё ён напісаў 52 дысэртацыі на 17 тэмаў — ад мэдыцыны да юрыспрудэнцыі — і распрацаваў тэксты праектаў некалькіх беларускіх і расейскіх дзяржаўных праграмаў. Праз пасярэднікаў да яго па дапамогу зьвярталіся нават уладцы, карыстаючыся зь яго розуму, фантастычнае эрудыцыі, неверагоднае працаздольнасьці і таленту. У многім з-за гэтага Кім не пасьпеў дапісаць тое галоўнае, што сам лічыў справаю свайго жыцьця: філязофскую тэорыю дваічнасьці (настрэчнасьці, як ён называў яе апошнім часам) і раман-казку, над якімі працаваў дзясяткі гадоў. Мы ня пішам, што ён геній, проста таму, што Кім ненавідзеў гэтае слова ў дачыненьні да сябе.

Але веліч Кімава ня ў гэтым. Дзівоснаю была атмасфэра яго дробнае кватэркі на Кісялёва, падобнае ці то да бамжатніка, ці то да кнігасховішча. Гэта было месца паломніцтва, прахадны двор, дзе штодня тоўпілася па дзясятку чалавек — ад студэнтаў-гуманітараў да паважных рэжысэраў і дзяржаўных дзеячаў. Кожны шукаў і знаходзіў тут увагу і цікавасьць да свае асобы — на жаль, ніхто з нас не запешчаны ўвагаю. Кім быў унікальным суразмоўцам. Пра кожнага чалавека яму было цікава абсалютна ўсё. Ён надзвычай уважліва, як земскі лекар, выслухоўваў кожнага, хто прыходзіў, пры гэтым патрабуючы зьвяртацца да сябе на *ты* незалежна ад узросту. Ён у кожным знаходзіў нешта цікавае для сябе і — галоўнае — для самога гэтага чалавека. Бо няма ў сьвеце істоты больш няўпэўненай і кволай, як чалавек. Асабліва юны.

Раўнадушным Кім не пакідаў нікога. І да яго ішлі і ішлі, і плацілі — хто ўдзячнасьцю і любоўю, хто даносамі і агудаю. Кім ня быў добрым дзядулькам — як той казаў, ні божа мой, — але ён умеў дараваць. Хоць у яго была свая градацыя выгнаньняў. "Прэч!" — азначала незадаволенасьць мэтра: трэба было перачакаць, пакуль ён астыне, а потым паскрэбсьціся ў дзьверы, і то лепей зь нейкаю праблемай — Кім адразу кідаўся на дапамогу, забываючыся аб сварцы. "Прэч адгэтуль на...!" — было страшна, але ўсё ж не безнадзейна. А вось "вон на... з раскладушкаю!" — гэта быў канец.

Праўда, апошняя фраза прызначалася толькі найніжэйшым зь нізкіх. Мерка нізасьці была Кімава: у 1962 г. ён нават не пакрыўдзіўся на чалавека, з-за якога на два гады трапіў у турэмную псіхушку ў "*Крастах*" (дарэчы, гэты час ён успамінаў з асалодай: *"Якая там была бібліятэка!"*), але больш ніколі не пускаў у дом чалавека, які пабіў сабаку.

Кім страшна любіў расказваць. Ён ведаў і памятаў рэчы, якіх ня ведаў і ня памятаў ніхто. Ён часта і падоўгу жыў у Маскве, ведаў маскоўскую эліту, і там яго ведалі і цанілі. Сябраваў зь Ю.Кімам і Л.Аньнінскім. А зь сім-тым з славутых ён сядзеў — з Айхэнвальдам, Уліцiным, Асарканам. Зь ляўрэатам Нобэлеўскай прэміі Жарэсам Алфёравым Кім вучыўся ў адной клясе 42-й менскай школы, што на Камсамольскай. Ведаў Акуджаву і Высоцкага. На адным зь яго дзён народзінаў сьпяваў Галіч. Ён любіў Маскву, а больш за ўсе гарады сьвету — Тбілісі. Пры гэтым ня мог вывучыць дарогі да сяброў тут, у Менску. Аднойчы хам-таксіст выкінуў яго, ужо амаль 70-гадовага, непадалёк ад дому сяброў у бандзюжным Заводзкім раёне, і ён шукаў гэты дом уначы дзьве гадзіны. Знайшоўшы, весела распавядаў пра тое, як па дарозе на той жа начной вуліцы яго абрабаваў нейкі малады нягоднік. А потым яшчэ тры гадзіны камэнтаваў ліставаньне Астаф'ева з Эйдэльманам.

Мала хто так тонка цаніў беларускую паэзію, як Кім, пры тым, што сам ён гаварыў толькі па-расейску. А адкрыўшы новы талент, сьпяшаўся дзяліцца радасьцю з усімі. Адна зь лічаных яго апублікаваных працаў (супольная з Г.Трэстманам) прысьвечаная аналізу расейскіх перакладаў беларускай паэзіі.

Ён умеў запаліць у чалавеку іскру божую. Умеў і лічыў гэта галоўнай сваёю справаю — важнейшаю нават, чым *Дваічнасьць* і *Казка*. У апошнія гады, гады хваробы (на якую ён пляваць хацеў: мабыць, таму і патрапіў пражыць з ракам лёгкага і кучай спадарожных хваробаў тры гады — неверагодны кавалак часу!), ён, вымушаны скараціць кантакты, адмовіцца ад паходаў у тэатры і на канцэрты, на якія быў вялікі аматар, казаў: *"Я — бібліятэка без чытачоў"*. А яшчэ ён называў сябе сапсаваным гучнамоўцам і звар'яцелаю Брытанскаю энцыкляпэдыяй. Колькіх ён заразіў жаданьнем творчасьці! Колькі таленавітых людзей атрымалі ад Кіма — не, не ўрачыстае блаславеньне — рэальную падтрымку. Сапраўдную, штодзённую, адказную. Колькі часу і сілаў ён траціў на нас, сваіх сяброў! І як ён радаваўся новым талентам!

Так, шмат клічнікаў. Але такі ўжо ён быў чалавек — клічны. І галоўнае — ён заўсёды быў. І насуперак усім законам і падставам, насуперак ягоным страшным дыягназам, найстрашнейшым зь якіх для яго была сьлепата, чамусьці наіўна верылася: ён заўсёды будзе.

Пры відочным беспарадку ў доме і ў адзеньні Кімава багемнасьць — ілюзія. Ён быў фантастычна дакладны, пунктуальны, ніколі нічога не забываўся. Ён памятаў, дзе ляжыць кожная з сотняў ягоных кніг (зрэшты, можа і ня сотняў: ён ахвотна і шчодра дарыў іх сябрам), памятаў усе дні нараджэньня і ніколі не забываўся павіншаваць. Ён дапамог уладкаваць лёсы і вырашыць праблемы сотням людзей, карыстаючыся шырачэзным колам сваіх знаёмых — ад міністраў і рэжысэраў да трымальнікаў беларускага "абшчака". Ён працаваў да апошняй хвіліны — банальная фраза, але праўда ўвогуле мае ўласьцівасьць быць банальнай. І памёр пасьля філязофскае спрэчкі. Яму хацелася памерці на карнавале ў Баі, але савецкай мяжы Кім ніколі не пераяжджаў. За савецкім часам яму прапаноўвалі катэдру саветалёгіі ў адным з амэрыканскіх унівэрсытэтаў. Але Кім не ўяўляў сябе ў эміграцыі. *"Хутчэй я буду жыць на чацьвертым блёку рэактару"*, — грукаў ён кіем, хадзіць безь якога ня мог ужо шмат гадоў. І жыў. І заўсёды на чацьвёртым, нават калі ні пра які Чарнобыль і гаворкі не было. І да чаго ж весела жыў!

Гледзячы на яго ў труне, сябар і вучань Кіма, ізраільскі паэт Грыгорый Трэстман сказаў, што ў Кіма — лоб Сакрата. І гэтае параўнаньне не выпадковае. У Менску другое паловы XX ст. Кім быў тым жа, што і Сакрат у старадаўніх Атэнах. Вакол абодвух зьбіралася моладзь. Абодва былі філёзафамі. Абодва вялі недазволеныя гутаркі. Абодва любілі гэта больш за ўсё на сьвеце. Абодва пагарджалі побытам. Абодва мелі адданых (і здрадных) вучняў: шмат хто з гэтых вучняў стаў знакамітым — спаміж як першых, так і другіх. І Сакрата, і Кіма ненавідзелі ўлады.

Ён быў буйны ў спрэчцы — і гранічна далікатны зь любімымі альбо безабароннымі. Ён быў гранічна вітальны (яго слова!), шчодры, шумны — і надзіва ўмеў слухаць. У лепшыя часы вакол яго — забароненага, дысыдэнтуючага — круціліся гурмы народу, і пры гэтым ніводзін зь яго сяброў (сьведчым з уласнага досьведу) не адчуў, што яго занядбалі, забыўшыся пра яго ў натоўпе.

Ён ня ўмеў уключыць тэлевізар і зварыць яйка. Якое там — цьвік у сьцяну ўбіць! Каля году ён жывіўся адною згушчонкаю: і смачна, і ніякага клопату, і не адцягвае ні ад гутаркі, ні ад працы (пасьля чаго Кім выявіўся адзіным чалавекам у Менску, які ў мірны час перахварэў на цынгу). Ён пытаўся ў сяброў: *"Не разумею, адкуль вы даведваецеся, што чайнік закіпае?"*. Ён бясконца і беспасьпяхова змагаўся са сваім муштуком, які вечна губляў — часам сябры знаходзілі прапажу моцна заціснутай у Кімавай руцэ. Мабыць, гэты муштук — адзіны, хто хоць зрэдчасу здабываў над Кімам перамогу. Ён страшна любіў чырвоны колер, і доўгія гады за парадны гарнітур яму служыў пунсовы лыжны строй з чырвоным барэтам.

Кім памёр лёгка. І гэта неверагодна: век, дыягназы, сем гадоў турмы і два інфаркты за плячыма! Памёр пасьля захопнае спрэчкі з блізкім сябрам. І гэта прыгожа — ня горш за карнавал у Баі! У апошнія гады пры Кіму заставалася ня надта шмат сяброў: усе мы страшна дзелавыя людзі, праўда? Але тыя, хто застаўся, будуць жыць побач зь ім. Іх вершы будзе правіць яго рука — праз памяць. Яго ідэі, почасту так і не запісаныя — ён раскідаўся імі, як фаервэрк іскрамі, — працягнуць жыцьцё ў напісаным іншымі. Яго ўменьне працаваць, яго адвага — які там рак, якая там турма, якая там старасьць і сьмерць! — галоўнае застаецца сабой. Дай Бог кожнаму такую сьмерць. Дай хоць аднаму зь мільёну такое жыцьцё. Тады жыцьцё шмат каго мецьме хоць невялікі шанец стацца сапраўдным.

**Сябры**

## ВОДГУКІ

літоўцаў як акт, варожы да Польшчы. Аднак найбольшае іхняе абурэньне выклікала стаўленьне новага біскупа да беларусаў. Матулевічу не заняло шмат часу, каб пераканацца, што большая частка ягонай паствы — не палякі ці літоўцы, а беларусы, якія знаходзіліся ў бяспраўным становішчы. Згодна з польскай канцэпцыяй "нацыянальна-аднароднай дзяржавы", яны былі асуджаныя на асыміляцыю. Важная роля ў працэсе асыміляцыі адводзілася Каталіцкай Царкве, якая, як выказаўся ў 1923 г. дэлегат польскага ўраду для Віленшчыны Валеры Роман, была адным з найбольш магутных чыньнікаў *"здабываньня для польскасьці масаў "тутэйшага" каталіцкага насельніцтва зь яшчэ нявызначаным нацыянальным пачуцьцём"*. Большасьць польскіх каталіцкіх сьвятароў падтрымлівалі такую палітыку свайго ўраду. Матулевіч, аднак, ня мог дазволіць, каб Царкву выкарыстоўвалі для палітычных мэтаў. Канфрантацыя была непазьбежная. Ягоныя сьціплыя намаганьні задаволіць духоўныя патрэбы беларусаў выклікалі абвінавачваньні ў падтрымцы "беларускага шавінізму". Польскія сьвятары высылалі лісты ў Ватыкан з просьбай забраць Матулевіча зь Вільні. Нават праз пяць гадоў пасьля ягонага адыходу — і праз тры гады пасьля сьмерці — рэктар Віленскай духоўнай сэмінарыі Ян Ушыла ў гутарцы з а.Антонам Зянкевічам сказаў: *"Біскуп Матулевіч быў страшны не сваёй літоўскасьцю, а прапагандаю беларускасьці"* (ліст Зянкевіча да Ўл.Талочкі ад 22.5.1930. Захоўваецца ў архіве Бібліятэкі Ф.Скарыны ў Лёндане).

Ці быў знаёмы Матулевіч зь беларускім адраджэнскім рухам да 1918 г.? Цяжка сказаць, але найхутчэй не, бо ён не сутыкаўся зь ім у сваёй сьвятарскай дзейнасьці. Гэта ня значыць, што сярод ягоных знаёмых не было беларусаў. У 1907 г., калі Матулевіч быў прызначаны прафэсарам сацыялёгіі ў Каталіцкай Духоўнай Акадэміі ў Пецярбургу, лектарам грэцкай мовы ("катэдры старажытных моваў", пра якую згадвае Валеры Пазьнякоў, у Акадэміі не было) быў там Браніслаў Эпімах-Шыпіла, а Фабіян Абрантовіч — студэнтам II курсу. Матулевіч таксама выкладаў сацыялёгію ў Магілёўскай духоўнай сэмінарыі (яна знаходзілася ў Пецярбургу), дзе тады вучыўся Аляксандар Астрамовіч, лепш вядомы як паэта Андрэй Зязюля.

Матулевіч пакінуў Пецярбург улетку 1911 г., а ўвосень у Акадэмію прыйшлі два беларускія студэнты, Павал Пякарскі і Люцыян Хвецька. У наступныя гады да іх далучыліся Вінцэнт Гадлеўскі, Андрэй Цікота, Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч, Міхал Пятроўскі, Антон Неманцэвіч і іншыя. Ад 1912 г. там працаваў гурток беларускіх студэнтаў-багасловаў. У 1913 г. прафэсарам кананічнага права стаў беларус а.Язэп Белагаловы. У 1914 г. (а не ў 1912) вярнуўся зь Лёвэну (Бэльгія) а.Фабіян Абрантовіч і быў прызначаны прафэсарам у сэмінарыі. Усё гэта, аднак, адбывалася, калі Матулевіча ўжо не было там. З многімі беларускімі выпускнікамі Акадэміі ён сустрэўся і пазнаёміўся ў Вільні ў 1919 г. і пазьней.

Сярод выдатных царкоўных дзеячоў біскуп Матулевіч быў адным зь першых, хто зразумеў беларусаў і стараўся ім дапамагчы. Няшмат удалося яму зрабіць, але беларусы маюць усе падставы, каб успамінаць з удзячнасьцю гэтага добрага, разумнага і сапраўды Божага чалавека і сьвятара.

**а.Аляксандар Надсан, Лёндан**

### Апагей нянавісьці



У "НН" ад 27 жніўня ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў" у артыкуле "The United States of Leetwa" Уладзь Бараніч адкрыў на публіку сваю слаба-замаскаваную нянавісьць да нашай зямлі й нашага народу. Калі раней у гэтай рубрыцы дзялілі Расею паміж Кітаем і мусульманамі, а на Радзіме ўсталёўвалі рай з кампутарамі, "экалёгіяй" ды пад патранажам "цывілізаванага сьвету", дык у Бараніча найвялікшаю ахвярай сусьветных катаклізмаў станецца Паўночная Амэрыка. Аднак амэрыканскія белыя хрысьціяне й жыды, гнаныя з асцепкаў Амэрыкі чорнымі мусульманамі, знойдуць новую зямлю абяцаную ...у Злучаных Штатах Літвы (тэрыторыя былога ВКЛ). Паводле аўтара, жыць на сваёй зямлі пасьля прыйсьця амэрыканцаў застануцца далёка ня ўсе абарыгены. Праваслаўным і расейска-(трасянка)моўным наканаваны лёс уцекачоў на смаленска-саратаўскую "Беларусь". Сьвядома-выкшталцоная рэшта застанецца выконваць ролю ўдзячных індзейцаў. Зрэшты, пра тую рэшту ў "творы" не сказана ані слоўца. Яно й правільна, які сэнс аб індзейцах узгадваць? Падараваць ім шкляныя пацеркі, сфатаграфавацца на тле вігвамаў — ня болей.

Горай за ўсё ў гэткіх мроях тое, што, трэба думаць, тусуецца Ўладзь, "патрыёцтвуе" пацiху, удае зь сябе крутога нацыяналіста (пэўна шчэ й ліцьвінскага), а ў душы — адно зайздрасьць да штатаўскага жыцьця.

**Ваш Уважлівы чытач**

Водгук-жарт

# Ад Лысага, но не таго, на каго вы падумалі

Вашы публікацыі – ціпічны прымер разнузданасьці прадажнай негасударсьцьвеннай прэсы, у каторай выступает всячаскае атрэб'е ад Прафэсара да Гаўна ўключыцельна. Устамі некаега Шніпа, па каторам даўно плачэт і пішчыт Пішчалаўскі замак, вы шальмуеце парадачнага Граждана, а у яго ліцэ – мой самы мудры на планеце народ. Он пішат пра какой-та банкет зь півам, каторага не было і, чэсна сказаўшы, палажа руку, і быць не магло, патаму што дзела было как раз у ДзеньВаздушна-дэсантных войск, каторый был аб'яўлен дзякрэтам яшчо і Днём барбы с алкагалізмам на праізводзтве і ў быту.

Тысячу раз праў тав.Граждан, і я расцэніваю эта как голас маево народа сьнізу, кагда он, гавара пра "картафэлькі", неліцэпрыятна крыцікавал цем самым правіцельства за апазданіе з аб'яўленіем бітвы за уражай на картофельнай ніве, гдзе, кстаці, сягодня как раз і места вашаму Студзенту, падвізаюшчэмуся на вашай ушчэрбнай "Ніве" – прасьціце мне этат каламбур. Ведзь, чэсна гавара, не будзет картофеля – не будзет і дранікаў ні пад трох, ні пад чатырох буслоў.

Што касаецца "ляндрынак", то і тут тав.Граждан адназначна і беспаваротна праў, і, зная уманастраенія маево народа, чэсна скажу – пара, пара нам даць прастытуткам і прыгрэтым вашай жоўтай газяцёнкай "зайг зундам" самы рашыцельны бой! Да здрастует саюз трох брацкіх народаў!

Навекі ўмесьце!



# Дарагі Віця!

(Зьвяртаюся так, бо ўжо як чалавек незлапомны, статэчны і шчадзяшчы, я дараваў Вам палітычныя вышпігі і канфідэнцыі супроць мяне ў "Сабачых гісторыях".) Я зьвяртаюся да Вас як да лектара Літаратурнага сэмінару "Варштаты", бо грэшным дзелам (шучу, шучу!), і я папісваю сьцішата, а Вы кампэтэнтна, ветліва і культурна даяце адлуп розным там графаманам. Пра літаратурныя вартасьці маіх сьціхоў можаце не распрастраняцца, іх я й бяз Вас ведаю, бо за савецкім часам я шырока друкаваўся і нават зьбіраўся выставіцца на Нобля, каб ня тая перастройка – каб на яе паморак дзе які, каб на яе!.. Парайце толькі, у які элітарны і ўліяцельны орган мне свае творы даслаць: у "Советскую Белоруссію", "Звязду", "Рэспубліку", БТ, у ПЭНІС-клюб ці яшчэ куды?

Але к дзелу. Пасылаю вам на роздум адну сваю вяшчыцу – вострую двухрадковую палітычную сатыру. Як што яно да ўсіх алюзій і намёкаў Вам усё роўна не дапяць, таму толькі нашчот формы: гэта элегічны дзісьціх, натуральна, у старагрэцкім стылі, бо тады ў такім памеры якраз і пісалі элегіі, эпіграмы і некаторыя віды эпасу. Першы радок – гэта гэкзамэтар, а другі – пэнтамэтар, бо ён з водступам.

Гоп, Міколка! Гоп, Марыська! –
Пацалуй у сраку Лыска!

Разумею: спадзявацца на Вашу поўную аб'ектыўнасьць – гэта як супроць ветру (прабачце за канцылярызм!) адпраўляць малую надабнасьць, бо я ў творчасьці трымаюся курсу сацыялістычнага рэалізму, тым часам як Ваша газяцёнка – чортведама чаго! Але чым чорт ня шуціт – можа, і ўскромлю Ваша сэрца.

Увесь з вантробамі і тэльбухамі Ваш,

**Граждан**

**Ары вядзерчы, Рома!**
**(P.S.: па-італьянску разьвітваюся).**



# Па Вашых пісьмах

*сьвяточны фэльетон*

Добры дзень, паважаныя радыёслухачы! Пачынаем сьвяточную музычную праграму "Па вашых пісьмах", прысьвечаную выбарам Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Цеснымі згуртаванымі шэрагамі ідзе беларускі народ на выбарчыя ўчасткі, каб падтрымаць нашага адзінага рэальнага кандыдата, ягоны ўнутрана- і зьнешнепалітычны курс, накіраваны на ўмацаваньне абароназдольнасьці краіны й дабрабыту народу. Вось ужо сем год наш нязьменны стырнавы вядзе Беларусь да недасяжных вышыняў эканомікі, натхняе на працоўныя і духоўныя подзьвігі.

А зараз будзе прамое ўключэньне з выбарчага ўчастку №6900. "Добры дзень, Менск! Зараз дзьве гадзіны дня. Як паказаў папярэдні прагляд урнаў для галасаваньня, па нашай акрузе Лукашэнка набірае 97% галасоў. Народ проста валам валіць на выбарчы ўчастак. У вачах людзей сьвеціцца падзяка. "Кожны вечар глядзім, як прэзыдэнт кіруе краінай праз праграму "Панарама", — кажуць людзі. — Канспэктуем сэлектарныя нарады. Хочам падзякаваць, што ў касавіцу дажджу не было, перадаць прывет і песьню Алы Пугачовай". Штопраўда, падкупленыя Захадам незалежныя назіральнікі кажуць, што..." Дзякуй, Дзімачка! Нашыя радыёслухачы таксама ўсебакова падтрымліваюць Аляксандра Рыгоравіча.

Вось што піша нам заслужаны вартаўнік Рэспублікі Беларусі Вісарыён Гапіевіч: "Таварышы! Мне 94 гады, 4 зь якіх я правёў на школьнай скам'і. Я ўсё жыцьцё адпрацаваў вартаўнікам у розных перавыхаваўчых установах Крайняй Поўначы і на найбуйнейшых будоўлях сацыялізму. І я выступаю супраць паглыбленьня тэндэнцыяў глябалізацыі на эўрапейскім кантынэнце і зьвязанага зь ім пашырэньня NATO на ўсход, у сувязі з чым прапаную пераназваць вёску Пазьнякі Ляхновіцкага сельсавету ў Едзіненіе, а Домашы Ляхавіцкага раёну — у Саюз". Дзякуй Вам, Вісарыён Гапіевіч! Для Вас гучыць песьня пяўца Малініна "Белы конь"...

А мы, між тым, маем званок у рэдакцыю. Алё! "Алё! Здрастуйця! Я ж на дасрочныя тыя не хадзіла, баялася, каб на Ганчарыка мой голас не перапісалі, а сёньня пакуль выбралася, дык мне скрынку дахаты прывезьлі. Кажуць — галасуй, цётка, за каго хочаш, а крыжык стаў во тут! Я прагаласавала, дый пытаюся: а ці можна шчэ раз, каб ужо напэўна было? Чаму не — кажуць — можна. Такія ўжо добрыя хлопчыкі трапіліся. А на выбары я ўсё адно пайшла — аўталаўка ж прыехала, хлеб, віно дзешавое — будзе чым трактарыстам плаціць, калі камбайну старшыня ня..." Дзякуй, дзякуй, наш час у эфіры падыходзіць да заканчэньня!

Хлеб! І ўсё дзякуючы яму! Ён бароніць нас ад NATO! Ён вядзе нас у братнія абдымкі Расеі! Ён беражэ мір! Ён зрабіў нас шчасьлівымі! Ён стварыў неба і зямлю! Ён!!!

**Сяргей Мікулевіч, Будслаў**



## Прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Віншую маю мамулю** Іру з Днём нараджэньня. Жадаю посьпехаў у жыцьці. Аляксандар

**Мой даражэнькі сябар Віт!** Віншую цябе з паступленьнем. Жадаю посьпеху ў студэнцкім жыцьці. Сяброўка Алена

### калекцыі

**Прапаную значкі**, кукарды, шаўроны, маркі, капэрты "першага дня гашэньня". Т.: 229-27-89

**Мяняю маркі** з нацыянальнай сымболікай на купоны б/а "Нашай Нівы" ("Пагоня", "Сьцяг", "Крыж Эўфрасіньні Полацкай", "Гарады Беларусі"). Ад Вас капэрта са зв/а: 220030, Менск, а/с 195. Т.: 229-27-89

### кантакты

**Беларускія нацыяналісты Кобрыншчыны**, дзе вы ёсьць? Ці "Абракадабра" — усё, на што мы здольныя?

**Генусь**, 9-га акупуем "Дынама"! Алесь Вольны

**Агу!** Лунінецкія ліцэісты, адгукніцеся! Алесь Вольны — адзін з вас. Вул.Куйбышава, д.6, п.Б154а. Алесь Вольны

**Андрэю Вольны**, ці не Ўлікова-Капітальна ты зьбіраешся Будаваць? Паўла

### кнігі, музыка

**Шукаю кнігу**: Зьнешняя палітыка Беларусі (Зборнік дакладаў. Чэрвень 1941 — жнівень 1945). Т.4. Менск, БДУ, 2001. Складальнікі: Дзятчын, Міхнюк. Т.: 229-27-89. Алесь (з 11.00 да 21.00) 220030, Менск, а/с 195

**CD "Я нарадзіўся тут"**, "Легенды Вялікага Княства" і інш. Можна набыць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**Набуду 4 т. Янкі Купалы**, кнігі з сэрыі "Мой родны кут" — пра Менск і Берасьце. Т.: 259-55-40

**Шукаю кнігу В.Быкава** "Сьцяна". Т.: 8-0222-23-85-77

**Беларускамоўныя** мульцікі можна набыць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**У Гомелі ёсьць** беларускія аўдыё- і відэакасэты, кампакты, кнігі. Т.: 45-11-51 (штодня)

**Набуду Г.Фаст** "Апошняя мяжа", Т.Хеердал "Падарожжа на "Кон-Цікі" і інш. пра індзейцаў на беларускай мове. А/с 114, Гомель, 246049

**"Amnesty International у Беларусі"** (Гомель), у т.л. №4(10): перасьледаваньне геяў і лесьбіянак, Маквэй "Рэзэрвацыі сумленьня" (Беларуска-індзейскае таварыства). А/с 114, Гомель, 246049

**Падручнік беларускае мовы.** Прыходзь і забірай! http://mujweb.cz/www/padrucnik

**Я.Карскі "Беларусы"**, М.Улашчык "Выбранае", К.Каліноўскі, Э.Ажэшка, Я.Баршчэўскі, Ул.Жылка, "Філяматы і філярэты" з сэрыі "Беларускі кнігазбор". Т.: 220-70-27

**Беларускі кнігазбор.** Я.Карскі "Беларусы" — фундамэнтальная праца славутага вучонага. Упершыню з 1903 і 1916 г. Абмежаваны наклад. Т.: 220-70-27

**Гісторыя краіны па-беларуску** і ангельску! "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы" — шырокафарматнае, багата ілюстраванае выданьне. Мізэрны наклад. Файны падарунак. Т.: 220-70-27

### прадаю

**Прадаю пантофлі мужчынскія** (памер 41), красоўкі (памер 37) — новыя, нядорага. Т.: 265-75-73

### праца

**Сакратаркі**, перакладчыцы шукаю працу. В/а (МДЛУ), ангельская і французская мовы, справаводзтва. Т.: 259-33-13 (Сьвятлана)

**Шукаем адмыслоўцаў** па рамонце, праектаваньні радыёэлектронных і электратэхнічных вырабаў. Т.: 222-27-18

**Шукаем дасьведчаных** турапэратараў і перакладчыкаў. Т.: 222-27-18, 289-12-86

**Калі вы займаецеся** бізнэсам і маеце прапановы, дык завітайце на сайт www.gaspadar.com

**Гісторыя.** Кансультацыі, рэпэтытарскія заняткі. Т.: 286-05-95

**Дапамагу пачаць** уласную працу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе. Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**Дапамагу пачаць уласную**, вельмі прыбытковую справу. Не распаўсюджваньне, але проста! Ад Вас капэрта са зв/а. 210041, Віцебск, а/с 6

### фэст

**Аршанскі бардаўскі фэст** у гонар славутай бітвы пад Воршай адбудзецца сёлета 15 верасьня. Пачатак а 17-й. Гасьцей адвязуць аўтобусам з аршанскага чыгуначнага вакзалу а 15.30. Даведкі і пытаньні па т.: 8-02161-525-40 /сп.Генадзь/

### net

**"Сьвятая Дуброва — Крыўскі пяроспар"** — адзіны нэапаганскі рэсурс беларускага Сеціва. Запрашаем усіх зацікаўленых: http://www.dubrova.cjb.net

**Запрашаем Ягамосьцяў** наведаць новы рэсурс — Кроніка Вялікага Княства Літоўскага, — прысьвечаны гісторыі гэтага гаспадарства: http://www.litva-kronika.cjb.net

**Сайт** "Адзіны кандыдат" — http://belkandidat.cjb.net

**НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________



## Паштовая скрынка

**Сяргею Б. зь Менску.** Сьвятлана Курс разглядае паводзіны "ультранацыяналіста" з сайту www.dereh.com ня так, як Вы. А думаць па-іншаму — ня тое самае, што памыляцца. Дый "зуброў" мы зь іншымі патрыятычнымі арганізацыямі ня сварым. Мы зь імі папросту ня згодныя.

**Віталю С. зь Менску.** Цікава было б, каб Вы напісалі для "Беларусі праз 100 гадоў", якой будзе беларуская фартэпіянная школа праз стагодзьдзе. Якой Акадэмія музыкі? Якія цяперашнія будынкі ў Менску і іншых гарадах будуць выкарыстоўвацца як канцэртныя залі?

**Яўгену з Тут.Баю.** Моўныя заўвагі, якія Вы коратка натуеце, патрабуюць больш дэталёвага разгляду і шырэйшага абмеркаваньня. Напішыце падрабязней. Агульны ж адказ: мова мусіць быць найперш натуральнаю і яснаю.

**Лініку Б. з Кобрыня.** Вельмі густа пішаце. Цяжка разьбіраць.

**Валер'ю Г. зь Менску.** Мы ў Вашых судовых нягодах напэўна не дапаможам. А вось праваабарончыя цэнтры "Вясна" (тэл. 231-08-44) і Беларускі Хельсынскі Камітэт (тэл. 222-48-00) здольныя і маюць дзеля гэтага адвакатаў.

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| нам. галоўнага рэдактара | Сьвятлана Курс |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| карэктар | Сяргей Сматрычэнка |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 213-32-32
E-mail: nn@irex.minsk.by
http://niva.s5.com



Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты "Известия", д. 8, кв. 173.
Наклад 5748.
Нумар падпісаны ў друк 10.09.2001.
Замова № 5170.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а